**№ 11 (3854)**

11 лютага 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*


www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

**АКТУАЛИИ**



*Светлана КАЛИНКИНА*

## Трутни и труженики

**Невозможно не болеть за каждого конкретного белорусского спортсмена, не желать им самых ценных наград за многолетний тяжкий труд — олимпийских медалей и побед. Но в то же время не хочется, не можется да и просто противно болеть за белорусский спорт как за систему.**

**Вот сейчас Олимпиада — смотр достигнутого, когда словоблудию просто нет места, потому что остаются только беспристрастные экзаменаторы в виде очков и секунд. С чем мы на Олимпиаду приехали?**

**Во-первых, как кто-то метко подметил, “в бой пошли одни старики”. И даже во фристайле молодой смены нет, хотя белорусская школа фристайла считается одной из лучших в мире.**

**Во-вторых, по оценкам специалистов, на хоккей в Беларуси средств тратится, пожалуй, больше, чем на весь остальной спорт, но при этом наша хоккейная дружина просто пролетела мимо Олимпиады. Разве это не “достойный оценки” результат?**

**В-третьих, все, конечно, знают, что господин Лукашенко — специалист во всех сферах. Но когда я смотрела по телевизору, как он наставлял девушек, — смеялась от души. Может, от таких наставлений та же Даша Домрачева так переволновалась, что заняла только девятое место…**

**В-четвертых, искренне желая медалей нашим спортсменам, потому что они их завоевывают потом, кровью и вопреки всему, мы прекрасно понимаем, что в нашем спорте — как на войне: победа все списывает. И это неправильно. Потому что победы одних списывают просчеты, ошибки и иждивенчество других.**

**Возьмем для примера горнолыжный спорт. Надо ли нам, стране, прямо скажем, не горной и не снежной, развивать этот вид спорта — вопрос дискуссионный. Тем более что горные лыжи — занятие очень не дешевое. Хотя бы потому, что все сборы должны проходить на настоящих горнолыжных курортах, которых у нас нет. А цены там — сами понимаете…**

**Тем не менее своих горнолыжников мы готовим, и они гордо едут на Олимпиаду представлять нашу страну. Вот только зачем?**

**О медалях, естественно, речь не идет. Накануне Олимпиады специалисты гадали, доедет ли наша Марина Шканова до финиша, поскольку это ей не всегда удается. По крайней мере в этом году у спортсменки ни разу не получилось дойти до финиша, хотя она принимала участие в четырех стартах. В итоге Шканова находится в Сочи, но пока вообще не допущена к участию в соревнованиях. Оказалось, что “наша Маша” не вписалась в лимит по штрафным очкам.**

**Другой спортсмен — Юрий Данилочкин. Показал 31-й результат из пятидесяти участвовавших в соревнованиях спортсменов. Честно говоря, для Данилочкина это очень неплохо — он просто превзошел самого себя. Но для страны?**

**Юрий Данилочкин принял белорусское гражданство в 2010-м, Мария Шканова — в 2008 году. Оба в прошлом россияне. Тренеров им тоже выписывали из-за рубежа. Ёже Малуш, наставник Шкановой, — словенец, Наталья Данилочкина, тренер и мама Юрия Данилочкина, — уроженка Санкт-Петербурга.**

**Несложно догадаться, что в своих странах такие спортсмены и такие тренеры и думать не могли о том, чтобы попасть на Олимпиаду. Зато Беларуси не жалко денег на дорогостоящих спортивных туристов. Получается, вытянули и Шканова, и Данилочкин счастливый билет, хорошо устроились.**

**В Администрации президента об этом не знают? Лукашенко об этом не знает? Не будем наивными! Глава федерации горнолыжного спорта — не кто иной, как помощник президента Наталья Петкевич. Говорят, и сама любительница этого дорогого отдыха.**

**Вот поэтому у меня случилось мировоззренческое раздвоение. С одной стороны, всей душой желаю медалей и побед нашим спортсменам. С другой — понимаю, что эти победы позволят и дальше огромной армии трутней паразитировать на заслугах умниц и тружеников.**

**АЛІМПІЯДА-2014**

# Без медалёў. Пакуль...

## *Алімпійскія гульні ў Сочы набіраюць абароты, але зборная Беларусі пакуль застаецца без медалёў.*

Адкрыццю Алімпіяды ўжо паспелі даць ацэнку і тыя, хто “ахаў” ад захаплення, і тыя, хто ставіўся да падзеі крытычна. Нават адстаўны мэр Масквы і сябра спартсменаў **Юрый Лужкоў** не ўпусціў выпадак шпульнуць камень у агарод арганізатараў шоу: маўляў, садралі сцэнарый з цырымоніі адкрыцця Гульняў-2012 у Лондане.

Зрэшты, усё гэта ўжо гісторыя, зараз балельшчыкаў больш хвалююць непасрэдна спартыўныя спаборніцтвы. Беларусаў, як вядома, у першую чаргу цікавяць біятлон і фрыстайл — менавіта ў гэтых відах спорту мы можам разлічваць на медалі.

І ў мінулую нядзелю, напэўна, уся армія аматараў спорту стаілася ў чаканні, калі пачалася жаночая біятлонная гонка ў спрынце. Ці зможа Дар’я Домрачава заваяваць першы медаль? Ці “стрэліць” нехта яшчэ?

“Стрэліла” — і яшчэ як! Праўда, да нашых спартсменак гэта не мае ніякага дачынення. Двухразовай алімпійскай чэмпіёнкай у спрынце стала ўраджэнка Цюмені **Анастасія Кузьміна**, якая, да незадавальнення расійскіх балельшчыкаў, зараз выступае за зборную Славакіі. Серабро — у расіянкі **Вольгі Вілухінай**, бронзу заваявала ўкраінка **Віта Семярэнка**. На жаль, наша **Даша Домрачава** з адным промахам — толькі 9-я.

Дарэчы, Кузьміна ў гэтай гонцы апярэдзіла Домрачаву на 31,8 секунды. Акурат такую ж перавагу (31,8 сек.) над беларускай прадстаўніца Славакіі мела ў спрынце на Гульнях у Ванкуверы і чатыры гады таму. Вось і не вер пасля гэтага ў магію лічбаў!

Да слова, напярэдадні гэтай гонкі ў Сочы **Аляксандр Лукашэнка** наведаў беларускую зборную па біятлоне, каб даць спартсменам некалькі парад.

*“Спакойна выходзь і страляй. Не мітусіцеся, гэта ж першая гонка. Галоўнае — не мітусіцца. Калі хочаце, я магу там, дзе вось скажуць, стаць на рубяжы. Сцягам буду размахваць. Хочаце, буду бегаць недзе там туды-сюды праз усю трасу”,* — цытуе Лукашэнку kp.by.

У выніку, як сведчыць статыстыка, Дар’я Домрачава на самай справе “не мітусілася” і па хуткасці стральбы заняла 75-е месца сярод 84 удзельнікаў.

На форумах многія балельшчыкі зараз выказваюць занепакоенасць: ці не плануе Аляксандр Рыгоравіч наведаць напярэдадні стартаў і каманду фрыстайлістаў?..

Учора ж на Алімпіядзе разыгрываліся 5 камплектаў узнагарод, але беларусам там нічога і не свяціла. У гарналыжнай суперкамбінацыі Беларусь павінна была прадстаўляць **Марыя Шканава**, але за дзень да старту высветлілася, што яе не дапусцілі да спаборніцтваў. У шорт-трэку нашы спартсмены таксама зорак з неба не хапаюць. А беларускія біятланісты ўжо прывучылі балельшчыкаў, што мы ў апошні час выступаем усяго толькі ў ролі статыстаў на гэтым свяце жыцця.

А вось сёння — жаночая біятлонная гонка праследавання. Не будзем нічога казаць і рабіць прагнозы — у некаторых выпадках лепш проста памаўчаць.

**Алесь СІВЫ.**



**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

## *Уладзімір АСТАПУК: «Гэта ўжо не тыя Сочы і не тая экалогія...»*

*Аб плюсах і мінусах зімовай Алімпіяды “Народнай Волі” распавёў паўнамоцны прадстаўнік галавы г.Сочы па экалагічных пытаннях, старшыня Беларускай суполкі ў Сочы Уладзімір АСТАПУК.*

— Я сам браў удзел у многіх праектах да Алімпіяды, хачу сказаць, што работа на самай справе была зроблена велізарная, — *кажа наш суразмоўца.*

**— Але чамусьці будаўнічыя работы працягваюцца і зараз...**

— І работы працягваюцца, і многія аб’екты, якія планавалася запусціць да Гульняў, пакуль наогул не функцыянуюць. Будуць яшчэ працаваць над Алімпіядай, прыводзіць горад у парадак.

**— А чаму не ўклаліся ў тэрміны?**

— Шмат прычын.

**— Кажуць, што і беларусы прыклалі руку да будаўніцтва алімпійскіх аб’ектаў...**

— Так, першы варыянт біятлоннага стадыёна рабілі менавіта



беларусы. І, трэба сказаць, яны заўсёды вызначаліся стараннасцю. На мой погляд, калі б Алімпіяда праходзіла ў Беларусі, усё было б зроблена куды больш якасна.

**— Дзякуй вам за Алімпіяду, але нам яшчэ чэмпіянат свету па хакеі пераджыць трэба... Дарэчы, а як звычайныя сочынцы церпяць гэтыя Гульні? Відавочна ж: каму свята, а каму і пакуты з-за розных абмежаванняў...**

— Славяне — цярплівыя людзі. Сочынцы за пяць гадоў перанеслі і будоўлі, і нязручнасці... Перакваліфікацыя курортнага горада ў алімпійскі ішла вельмі балюча.

**— Лужкоў сказаў, што Сочы — гэта ўжо не той утульны курортны горад, які быў марай многіх людзей.**

— Так, і гэта вельмі дрэнна. Хоць, як кажуць, нічога вечнага пад Месяцам няма. Дай Бог, каб усе тыя спартыўныя аб’екты, якія набудавалі ў горадзе, працавалі на карысць народа. А калі зарастуць травой і будуць пустыя — гэта ўжо бяда.

**— Экалогія падчас падрыхтоўкі да Алімпіяды моцна пацярпела?**

— Вельмі моцна. Больш за тое: менавіта экалагічныя аб’екты да сённяшняга часу і не запусцілі, а іх дастаткова шмат. Так што трэба будзе пасля Гульняў працаваць. Думаю, без Пуціна нічога і не вырашыцца. А мэр горада Пахомаў, калі да гэтага часу працаваў толькі днямі, пасля Алімпіяды будзе карпець яшчэ і начамі.

**Алесь СІВЫ.**

**СІТУАЦЫЯ**

## *Ці дапаможа палітвязню Васьковічу Чырвоны Крыж?*

Дэпутат Еўрапейскага парламента **Філіп Качмарэк** звярнуўся з лістом да старшыні беларускага Чырвонага Крыжа **Валерыя Малашкі**. Ён просіць старшыню беларускага аддзялення аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі, які адначасова займае пасаду намесніка старшыні Магілёўскага абласнога выканкама, звярнуць увагу на справу **Яўгена Васьковіча** і наведаць палітвязня ў турме.

18 мая 2011 года хлопца пакаралі зняволеннем на 7 гадоў. Спачатку Васьковіч адбываў пакаранне ў Магілёўскай калоніі №15, а 12 кастрычніка 2011 года яго перавялі на больш жорсткі рэжым — у Магілёўскую турму. Там палітвязень неаднаразова трапляў у штрафны ізалятар з фармулёўкамі “за парушэнне правілаў унутранага распарадку”.

Згодна з распаўсюджанай інфармацыяй, у ізаляцы Яўгена Васьковіча трымалі 8 месяцаў, што з’яўляецца парушэннем ягоных праў. У праваабарончых арганізацый гэта выклікала сур’ёзныя пытанні. У выніку, згодна з даручэннем Еўракамісіі, дэпутат Еўрапейскага парламента накіраваў ліст у Беларускае таварыства Чырвонага Крыжа з просьбай даследаваць сітуацыю.

Філіп Качмарэк даслаў ліст падтрымкі самому Васьковічу, у якім напісаў:

*“Я хачу, каб ты ведаў, што пра тваю справу ведаюць у Польшчы і Еўрасаюзе. Я схіляю галаву перад тваёй цвёрдасцю і нязломнасцю ў змаганні за свае ідэалы. Хачу, каб ты ведаў, што я і людзі добрай волі па ўсёй Еўропе змагаемся за свабоду, дэмакратыю і правы чалавека ў Беларусі. Я перакананы, што правы чалавека маюць універсальны і ўсеабдымны характар. Таму любое парушэнне правоў чалавека — гэта выклік для Еўропы і ўсяго чалавецтва”.*

Еўрадэпутат падтрымаў вязня словамі “Мы з табой!” і заклікаў не здавацца і не адмаўляцца ад сваіх ідэалаў.

Як адрэагуе на просьбу Чырвоны Крыж, які ў Беларусі выконвае спецыфічную функцыю не толькі гуманітарнай, але і блізкай да афіцыйнай улады арганізацыі?

Валерый Малашка паведаміў “Народнай Волі”, што ніякага ліста ад дэпутата Еўрапарламента ён не атрымліваў.

*“Нічога ў мяне няма. Я не ведаю, пра што ідзе размова. Калі я атрымаю паведамленне, то, канешне, як чыноўнік і старшыня грамадскай арганізацыі буду нешта рабіць”,* — сказаў ён.

Дзе згубіўся ліст, чаму ён ніяк не трапіць адрасату, пакуль не вядома. Але дакладна вядома, што турма, у якой трымаюць Яўгена Васьковіча, знаходзіцца не так далёка ад працоўнага месца чыноўніка абласнога ўзроўню і адначасова галоўнага прадстаўніка Міжнароднага Чырвонага Крыжа ў Беларусі Валерыя Малашкі. Па ўсім свеце гэтая арганізацыя падобныя просьбы не ігнаруе і займаецца дапамогай зняволеным.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**І ТАК БЫВАЕ**

## *Табун коней незаконна перасек польска-беларускую мяжу*

Беларускія памежнікі раніцай 9 лютага выявілі ў Камянецкім раёне за 300 метраў ад лініі беларуска-польскай мяжы табун коней. Высветлілася, што 15 коней-парушальнікаў прыйшлі з Польшчы, дзе недалёка ад мяжы знаходзіцца фермерская гаспадарка. Коні, магчыма, зламалі агароджу і зайшлі на тэрыторыю Беларусі. Пасля рашэння юрыдычных фармальнасцяў табун перададзены польскаму боку.

**АНОНС**

## Генадзь ГРУШАВЫ: люстэрка жыцця



Некалькі дзён таму Беларусь развіталася з **Генадзем ГРУШАВЫМ** — змагаром за незалежнасць краіны і ратаванне нашых дзяцей, пацярпелых ад Чарнобыля. Вось чаму светлая памяць пра гэтага вялікага патрыёта і гуманіста захаваецца ў найноўшай гісторыі Беларусі і ў шматлікіх беларускіх сем’ях. “Народная Воля” пачынае публікацыю ўспамінаў Генадзя Грушавога, якімі ён напрыканцы свайго жыцця падзяліўся з вядомым журналістам **Маратам ГАРАВЫМ**. Генадзь Грушавы шчыра, ад душы распавядае пра сваё змаганне за Беларусь для народа. Спадзяёмся, што грамадзянская пазіцыя Генадзя Грушавога, ягоная вера ў лепшую будучыню беларусаў падтрымаюць чытачоў газеты ў гэты няпросты для кожнага час.


**(Чытайце на 7—8-й стар.)**


**НАДВОР’Е**

## *«Аранжавы» аўторак*

*Як паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра* ***Дзмітрый Рабаў,*** *у Беларусі на гэтым тыдні ўстановіцца сакавіцкае надвор’е.*

Наша краіна ўсё яшчэ будзе знаходзіцца ва ўладзе вельмі цёплага і вільготнага атлантычнага паветра. Тэмпературны фон, які ўстановіцца пад яго ўплывам на тэрыторыі краіны, на 5—10 градусаў перавысіць кліматычную норму, характэрную для другога тыдня лютага.

*“Такое надвор’е характэрна хутчэй для сярэдзіны сакавіка,* — дадаў Дзмітрый Рабаў. — *Пры гэтым будзе адчувацца дыскамфорт, выкліканы сырасцю, туманам, галалёднымі з’явамі і ападкамі ў выглядзе мокрага снегу і дажджу”.*

У той жа час на аўторак, 11 лютага, сіноптыкі аб’явілі аранжавы ўзровень небяспекі.

*“Умовы надвор’я на тэрыторыі краіны будуць сфарміраваны пад уплывам атмасфернага фронту, які праходзіць праз тэрыторыю Беларусі, а таксама цёплай вільготнай паветранай масы, што паступае з паўднёвага захаду Еўропы,* — растлумачыў Дзмітрый Рабаў. — *На большай частцы тэрыторыі краіны прагназуюцца ападкі ў выглядзе мокрага снегу і дажджу. У многіх раёнах згусціцца туман”.*

Ноччу і раніцай на значнай частцы краіны, днём месцамі на дарогах чакаецца галалёдзіца, сіноптыкі абяцаюць слабы галалёд. Вецер у начныя гадзіны будзе няўстойлівы, слабы, днём — паўднёвы 4—9 м/с. Тэмпература паветра ўначы складзе ад мінус 4 да плюс 1 градуса, пры праясненнях — да 6 марозу. У дзённы час прагназуецца ад 0 да 5 градусаў са знакам плюс.

У сераду і чацвер пад уплывам атмасферных франтоў з Заходняй Еўропы на тэрыторыі Беларусі будзе пераважаць воблачнае надвор’е, на большай частцы тэрыторыі прагназуюцца ападкі ў выглядзе дажджу і мокрага снегу. Тэмпература паветра ўначы складзе ад мінус 2 да плюс 3 градусаў, удзень — ад 0 да 5 градусаў цяпла, па поўдні — да 7 градусаў вышэй за нуль.

У чацвер характар надвор’я істотна не зменіцца. А вось у пятніцу і суботу атмасферны ціск падрасце, ападкаў стане менш, у аблоках з’явяцца праясненні.

*“У нядзелю надвор’е ў Беларусі пачнуць фарміраваць актыўныя франтальныя раздзелы ад атлантычнага цыклону, які перамяшчаецца ў напрамку Балтыйскага мора,* — адзначыў Дзмітрый Рабаў. — *З-за перападаў атмасфернага ціску ўзмоцніцца паўднёва-заходні вецер”.*

**ПА ЧУТКАХ**

## *...а Чыж ні пры чым*

Па Мінску і ў інтэрнэце актыўна распаўсюджваецца інфармацыя, што пакет акцый ААТ “Мінскі трактарны завод” прададзены.

Па найбольш часта агучваемай версіі, новым “гаспадаром” прадпрыемства стаў гендырэктар “Трайпла” **Юрый Чыж.**

*“Мы сваім супрацоўнікам тлумачым, што пасля акцыянавання ніякіх змен не адбылося. 100 працэнтаў акцый завода належаць дзяржаве. Але, мабыць, камусьці выгадна бударажыць калектыў”,* — так пракаментаваў чуткі начальнік упраўлення ўласнасці і інвестыцый ААТ “МТЗ” **Уладзімір Кіпель.**

У інтэрв’ю парталу TUT.by спадар Кіпель адзначыў, што “*завод уваходзіць у лік прадпрыемстваў, акцыі якіх не падлягаюць ільготнаму продажу”. Тэарэтычна пакет акцый можа быць прададзены “толькі па распараджэнні прэзідэнта”,* сказаў прадстаўнік МТЗ. Па яго словах, пытанне аб магчымым продажы акцый МТЗ *“нават не прапрацоўвалася”.*

Не выключана, што хваля чутак звязана з тым, што завод, які доўгі час з’яўляецца візітнай карткай Беларусі, нарэшце акцыянаваны. Адкрытае акцыянернае таварыства “Мінскі трактарны завод” зарэгістравана 29 студзеня 2014 года Мінскім гарвыканкамам.

Народная Воля http://www.nv-online.info
11 ЛЮТАГА 2014 г.

ПАЛІТКУХНЯ

## Уладзімір КОЛАС:
# «Трэба падтрымаць каманду моцнага кандыдата...»

*На чарговым пасяджэнні Рады беларускай інтэлігенцыі былы рэктар БДУ і экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі на выбарах 2006 года Аляксандр Казулін прапанаваў свой сцэнарый выбараў адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкую пасаду — праз Сход інтэлігенцыі.*

*Ці азначае гэта, што Рада беларускай інтэлігенцыі будзе вылучаць сваю кандыдатуру адзінага на прэзідэнцкія выбары?*

— Гэта інфармацыя, мякка кажучы, ужо інтэрпрэціраваная, — *адказаў "Народнай Волі" старшыня Рады беларускай інтэлігенцыі **Уладзімір Колас**.* — Бо рашэння вылучыць адзінага кандыдата ад Рады інтэлігенцыі не было. Абмяркоўвалася сітуацыя, якая складваецца напярэдадні наступнай прэзідэнцкай кампаніі, выказваліся пэўныя засцярогі наконт таго, што будуць паўтарацца старыя сцэнары прэзідэнцкіх кампаній. Мы вырашалі, што ў гэтай сітуацыі рабіць Радзе інтэлігенцыі. У рэшце рэшт было вырашана адабраць адзінага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду з ліку патэнцыяльных прэтэндэнтаў і рэкамендаваць дэмакратычным сілам сканцэнтраваць свае намаганні менавіта на гэтай кандыдатуры. А Аляксандр Казулін агучыў ідэю сабраць Сход інтэлігенцыі, на якім больш шырокім колам абмеркаваць пытанне прэзідэнцкіх выбараў, таксама паглядзець на магчымых кандыдатаў і падтрымаць аднаго з іх. Пажадана, канешне, каб адзіны кандыдат ад апазіцыі быў чалавекам з сур'ёзным досведам канкрэтнай працы на высокім дзяржаўным узроўні, каб у чалавека была і харызма, і рэпутацыя, і мужнасць, і адукаванасць.

**— Рада інтэлігенцыі не збіраецца дыстанцыравацца ад палітыкі?**

— Былі розныя выступленні, але Рада інтэлігенцыі і ўзнікла як структура інтэлектуалаў, якія маюць актыўную грамадзянскую пазіцыю і лічаць сваім грамадзянскім абавязкам спрыяць пераменам у краіне, — *гаворыць Уладзімір Колас.* — І адысці ад гэтага — значыць, змяніць профіль нашай дзейнасці, а на гэта, як паказала папярэдняе пасяджэнне, далёка не ўсе згодныя. Таму было прынята рашэнне актыўна ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі і прыкласці ўсе намаганні для таго, каб атрымаць станоўчы вынік. Такім вынікам мы будзем лічыць сітуацыю, калі апазіцыйны кандыдат на прэзідэнцкіх выбарах набярэ больш за 50 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў. І мы лічым, што гэта абсалютна рэальна. Адзіная гэтаму перашкода — раз'яднанасць тых, хто ўзяў на сябе місію лідарства ў дэмакратычным коле.

**— Хочацца спадзявацца, што голас Рады інтэлігенцыі ўсё ж такі будзе пачуты...**

— Некаторыя палітыкі на працягу ўжо 20 гадоў не даюць ніякіх вынікаў у сваёй дзейнасці, падчас выбарчай кампаніі праяўляюць раз'яднанасць, узнікаюць нейкія міжусобныя спрэчкі, — *працягвае Колас.* — Таму мы будзем звяртацца да больш шырокага кола прыхільнікаў дэмакратычных перамен і спадзяёмся, што гэта дасць вынік. Мы лічым, што трэба падтрымаць каманду моцнага кандыдата, якая павінна далучыць да сябе ўсе здаровыя дэмакратычныя сілы.

### З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Аляксандр КАЗУЛІН:
## *«Малая верагоднасць, што можа быць абраны адзіны кандыдат...»*

— На пасяджэнні Рады інтэлігенцыі абмяркоўваліся многія пытанні: у якім становішчы знаходзіцца краіна, якія ёсць перспектывы, — *сказаў "Народнай Волі" А.Казулін.* — Мая прапанова аб з'ездзе інтэлігенцыі была выказана падчас адной з такіх дыскусій. На мой погляд, да таго, як абраць адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл на прэзідэнцкія выбары, трэба дасягнуць згоды ўнутры апазіцыі. І я за тое, каб спачатку вызначыцца, што ў нас увогуле адбываецца. Калі вызначымся, стане ясна, што рабіць. А калі няма яснасці, што можна абмяркоўваць? Наогул, малая верагоднасць, што пры такіх умовах, як сёння, можа быць абраны адзіны кандыдат...

**Марына КОКТЫШ.**

ПУЛЬС

## Беласток адмаўляецца ад беларускай філалогіі

Надалей невядома будучыня кафедры беларускай філалогіі ва ўніверсітэце Беластока. Нагадаем, што паводле рашэння кіраўніцтва ўніверсітэта, у гэтым годзе не будзе набору на першы курс.

Прычына — малая колькасць жадаючых вучыцца на кафедры. Супраць рашэння кіраўніцтва свой пратэст выказалі дзве беларускія арганізацыі з Беласточчыны. Аднак, паводле слоў загадчыцы кафедры, прафесара Галіны Тварановіч, пакуль што няма радасных навін адносна будучыні кафедры.

## Без гімна

Журы не змагло выбраць пераможцу конкурсу на гімн чэмпіянату свету па хакеі.

"Аніводная з прадстаўленых кампазіцый не можа называцца гімнам", — паведамляецца на афіцыйным сайце Федэрацыі хакея Беларусі. Тым не менш шляхам галасавання журы выбрала тры найлепшыя песні, прадстаўленыя на конкурс. Першае месца заняла кампазіцыя групы Litesound, другое — гурта Aura, і трэцяе — дуэта эстраднай песні "Міленіум".

Нагадаем, што чэмпіянат свету па хакеі адкрыецца 9 мая ў Мінску.

## Школы зачыняюцца нават у Мінску

Сёлета ў Мінску зачыняць дзве школы. Гэта сярэдняя школа №213 Маскоўскага раёна і СШ №58 Заводскага раёна.

У будынку 58-й школы размесціцца спецыяльная школа №18 для дзяцей з цяжкімі парушэннямі маўлення.

Дарэчы, летась у Мінску былі зачынены чатыры ўстановы, тры з якіх перададзены іншым ведамствам.

ЗА РУЛЁМ

## Сяргей САМОЙЛА, генеральны дырэктар аўтамабільнага холдынга «Атлант-М» у Беларусі:
# «Частка імпарцёраў спыніць сваю дзейнасць»



1 сакавіка 2014 года ў Беларусі ўводзіцца ўтылізацыйны збор на аўтамабілі. Гэта значыць, што новыя і патрыманыя машыны яшчэ больш падаражэюць.

Стаўкі ўтылізацыйнага збору будуць роўныя стаўкам Расійскай Федэрацыі ў расійскіх рублях, але іх выплата будзе ажыццяўляцца ў беларускіх рублях па афіцыйным курсе. Як адзначыў Сяргей Самойла, гэта чарговы крок у паслядоўнасці заканадаўчых змен, якія ўніфікуюць умовы працы аўтамабільнага рынку ў Беларусі і Расіі. Раней адбылося павышэнне імпартных пошлін на аўтамабілі для юрыдычных, а затым і для фізічных асоб, а таксама адмененая льгота па ПДВ пры імпарце аўтамабіляў. У сукупнасці гэта прывяло да істотнага павышэння коштаў на новыя і асабліва на патрыманыя аўтамабілі. Паводле ацэнак эксперта, пасля ўвядзення ўтылізацыйнага збору ў Беларусі мацней падаражэюць аўтамабілі старэйшыя за тры гады, якія ўвозяцца юрыдычнымі асобамі.

*"Утылізацыйны збор па такіх аўтамабілях фактычна з'яўляецца забаронным. Гэта вымусіць частку імпарцёраў такіх аўтамабіляў спыніць сваю дзейнасць. Астатнія будуць увозіць аўтамабілі на канкрэтнага пакупніка — фізічную асобу, як гэта адбывалася, напрыклад, да сярэдзіны 2011 года, калі імпартныя пошліны для фізічных асоб былі ніжэй"*, — адзначыў Самойла. Паводле яго слоў, утылізацыйны збор для фізічных асоб у цэлым з'яўляецца невялікім. Аднак рост коштаў на другасным рынку, верагодна, будзе вышэй, чым велічыня ўтылізацыйнага збору, з-за некаторага скарачэння імпарту ў цэлым.

Сяргей Самойла таксама адзначыў, што *"па машынах расійскай зборкі пры іх імпарце ў Беларусь (у тым ліку па машынах, якія купляюць фізічныя асобы ў расійскіх дылераў) збор будзе спаганяцца двойчы"."Падаражэнне такіх машын будзе залежаць ад тэхнічных аспектаў увядзення збору"*, — растлумачыў эксперт.

Паводле яго слоў, аўтамабілі беларускай зборкі, такія як Geely, пры іх продажы ў Беларусі не падаражэюць.

Аўтамабілі, імпартуемыя з-за межаў Мытнага саюза ў Беларусь, не павінны прыкметна падаражэць, так як пры ўвядзенні ўтылізацыйнага збору павінна адбыцца зніжэнне ставак імпартных пошлін да расійскага ўзроўню (па легкавых аўтамабілях — з 30% да 25%).

*"Калі гэта сапраўды здарыцца, то апынецца адзіным пазітыўным момантам"*, — адзначыў Сяргей Самойла.

ПЕРЫПЕТЫІ

# У Лівіі зноў судзяць беларусаў

***Да гэтага часу трое беларусаў, якіх спачатку асудзілі на 10 гадоў турмы за дапамогу рэжыму Кадафі, а потым прысуд адмянілі, не могуць вярнуцца на радзіму. Беларусам прыйдзецца прайсці праз яшчэ адно судовае разбіральніцтва.***



Учора ў Трыпалі пачаўся Грамадзянскі суд над захопленымі ў палон летам 2011 года 19 украінцамі, трыма беларусамі і двума расіянамі. Напярэдадні пасяджэння яны звярнуліся да Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла з просьбай дапамагчы ў іх вызваленні. "*Працэс носіць відавочны палітычны характар і патрабуе ўмяшання аўтарытэтных людзей і арганізацый,* — напісалі ў сваім лісце кіраўніку Праваслаўнай царквы лівійскія вязні. — *За час палону мы выпрабавалі многае. Да першага дня Алімпіяды ў Сочы споўніцца 900 дзён нашага зняволення"*.

Гісторыя з 24 захопленымі ў палон украінцамі, расіянамі і беларусамі доўжыцца амаль тры гады. Летам 2011 года яны былі захоплены паўстанцамі падчас баёў за сталіцу Лівіі. Іх спачатку прынялі за снайпераў-наймітаў, якія ваявалі на баку Кадафі, потым абвінавацілі ў тым, што яны садзейнічаюць рэжыму Кадафі: маўляў, усе яны дапамагалі аднаўляць ваенную тэхніку, якую ўрадавыя войскі выкарыстоўвалі супраць апазіцыі. Затрыманыя сцвярджалі, што яны не служылі ніякаму рэжыму, а накіроўваліся ў ахопленую грамадзянскай вайной Лівію зарабіць грошай, каб падтрымаць сябе, свае сем'і і таму заключылі кантракты з расійска-лівійскім нафтавым прадпрыемствам "Дакар". Сваякі палонных у Беларусі чамусьці адмаўляліся ад каментарыяў, забаранялі называць прозвішчы іх блізкіх у прэсе, не жадалі ніякай агалоскі.

4 чэрвеня 2012 года Ваенны трыбунал Лівіі прызнаў усіх захопленых у палон, у тым ліку трох беларусаў, вінаватымі ў дапамозе рэжыму Кадафі і прыгаварыў іх да 10 гадоў турмы з прымусовымі работамі. Аднак праз год і тры месяцы адвакатам пры падтрымцы дыпламатаў Беларусі, Украіны і Расіі ўдалося дамагчыся адмены гэтага жорсткага прысуду і перадачы справы на разгляд у суд агульнай юрысдыкцыі, так званы Грамадзянскі суд. З асуджаных яны перайшлі ў статус затрыманых, з'явілася надзея, што палонныя ў хуткім часе выйдуць на свабоду.

Аднак з моманту адмены прысуду Ваеннага суда спатрэбілася паўгода, каб адбылося першае пасяджэнне Грамадзянскага суда. Яно прайшло ўчора, 10 лютага, і цяжка сказаць, якім будзе рашэнне гэтай судовай інстанцыі.

Паводле слоў дыпламатаў, якія прысутнічалі ў зале суда, разгляд справы прайшоў фармальна, таму што абвінавачаных чамусьці не прывезлі на судовае пасяджэнне. Адвакаты патрабуюць поўнай рэабілітацыі сваіх падабаронных. Увесь гэты час, пакуль суд вызначаўся з датай судовага разбіральніцтва і пакуль будзе доўжыцца судовы разгляд, беларусы, украінцы і расіяне ўтрымліваюцца не ў турме, а на невялікай ваеннай базе, дзе жывуць у вагончыках пад вартай. У сваім звароце да Патрыярха Кірыла палонныя напісалі пра ўмовы іх утрымання: *"Нас шмат разоў пераводзілі з аднаго месца на іншае. Восем месяцаў утрымлівалі ў памяшканні без доступу дзённага святла. Дзевяць вязняў перасягнулі шасцідзесяцігадовую мяжу. Здароўе большасці падарвана. Урачэбная дапамога ёсць, але аказваецца са спазненнем. Адзін чалавек быў шпіталізаваны з працяглым вострым болем. Яму выдалілі жоўцевы пузыр, які цудам не лопнуў да аперацыі. Ёсць хранічныя хворыя. Разам з намі стаміліся і нашы сем'і. Яны не могуць атрымліваць нашы пенсіі, вырашаць гаспадарчыя і маёмасныя пытанні, так як скончыўся тэрмін дзеяння даверанасцяў. Новых аформіць не можам, бо не маем дакументаў"*.

Наступнае слуханне па справе павінна адбыцца 24 лютага.

Дарэчы, у лівійскім палоне знаходзіцца яшчэ адзін наш суайчыннік Вячаслаў Качура. У жніўні 2011 года яго затрымалі з украінскім калегам. У машыне, на якой яны рухаліся, быў аўтамат Калашнікава. Зараз Качура разам з чатырма ўкраінцамі ўтрымліваецца на ваеннай базе паблізу Трыпалі. І яго становішча яшчэ больш складанае, таму што да гэтага часу ў дачыненні да гэтых затрыманых абвінавачанне не выстаўлена, яны абмежаваны не толькі ў спатканнях з дыпламатамі сваіх краін, да затрыманых не заўсёды дапускаюць нават ваенных следчых, прадстаўнікоў суда. Атрымліваецца, што іх павінны судзіць, але калі і за што — невядома.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ВОПРОС—ОТВЕТ

# Какой парламент легитимный?

***Как-то мелькнула информация, что в Минске прошло собрание депутатов Верховного Совета 13-го созыва. На нем было принято заявление о "номенклатурной приватизации", которое опубликовала "Народная Воля". Полностью согласен с текстом и готов подписаться под ним. Но у меня возник вопрос: все-таки какой парламент в Беларуси легитимный — распущенный после референдума 1996 года Верховный Совет 13-го созыва или созданное тогда Национальное собрание?***

**Василий Конон, Минск.**

*Ответить на вопрос нашего читателя редакция попросила члена первого состава Конституционного суда, профессора **Михаила ПАСТУХОВА.***

— Это непростой вопрос. Для его понимания надо вернуться в тот период истории, когда после референдума 1996 года группа депутатов в количестве 103 человек во главе с заместителем председателя Верховного Совета Ю.Г.Малумовым приняла решение о прекращении его деятельности. Такое решение нельзя считать законным, поскольку оно было принято в нарушение процедуры, вне здания парламента, без должного кворума *(по Закону "О Верховном Совете Республики Беларусь" на заседании парламента должно присутствовать не менее двух третей от избранных депутатов. — **Авт.**).*

После роспуска Верховного Совета 13-го созыва 110 депутатов из его состава были "зачислены" президентским указом в состав новоявленной Палаты представителей. Остальные были просто изгнаны из парламента как ненужный "остаток". Без сохранения статуса, без выходного пособия, без скромного "спасибо".

Но "изгнанные" депутаты сохранили главное — свою честь, верность Конституции и своим избирателям. Они объединились, стали собираться на заседания и даже принимать на них решения. Их признали на европейском уровне и приглашали участвовать в заседаниях парламентских ассамблей ОБСЕ и Совета Европы. Они продолжили свою деятельность вплоть до окончания пятилетнего срока, на который был избран Верховный Совет (до января 2001 года).

В это время зачисленные в Палату представителей депутаты тихо и незаметно "отбыли" четырехлетний срок. Однако их "депутатство" изначально было незаконным, так как этих депутатов никто не избирал (туда их "кооптировал" А.Г.Лукашенко). Верхняя палата — Совет Республики — была сформирована позднее в соответствии с президентским декретом. К тому же финансовое и материально-техническое обеспечение Национального собрания было возложено на Управление делами президента. В результате новый парламент утратил качества законодательного и представительного органа власти и стал беспомощным придатком на теле всемогущей президентской власти.

Последующие выборы в Палату представителей и скрытые от народа выборы в Совет Республики не изменили статуса и роли нового белорусского парламента. От выборов к выборам *(в сентябре 2012 года прошли выборы депутатов уже 5-го созыва. — **Авт.**)* легитимность как необходимое качество законно избранного органа власти у этого парламента не появляется, да и не может появиться.

Что же касается депутатов Верховного Совета 13-го созыва, то они с позиции Конституции 1994 года и действовавшего тогда законодательства сохранили свой депутатский мандат.

При этом следует иметь в виду, что полномочия Верховного Совета сохраняются до открытия первого заседания Верховного Совета нового созыва, а новый состав парламента считается правомочным при избрании не менее двух третей от общего числа депутатов Верховного Совета (ч.1 ст.7 Закона "О Верховном Совете Республики Беларусь" от 21 декабря 1994 г.).

Кроме того, 11 октября 1995 г. Конституционный суд рассматривал вопрос о легитимности Верховного Совета 12-го созыва, полномочия которого затянулись в связи с бойкотом исполнительной властью выборов в мае 1995 года и неизбранием должного количества депутатов Верховного Совета 13-го созыва. В своем решении суд признал следующее: *"... в соответствии с Конституцией и законами Республики Беларусь Верховный Совет 12-го созыва вправе осуществлять свои полномочия в качестве высшего представительного, постоянно действующего и единственного законодательного органа в полном объеме до первого заседания Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, избранного в правомочном составе" (см.: Вестник Конституционного суда Республики Беларусь. — 1995, №4, с.35—46).*

Если указанные положения законодательства, а также решения Конституционного суда от 11 октября 1995 г. и от 4 ноября 1996 г. перенести на деятельность Верховного Совета 13-го созыва, то получится, что его полномочия, а также статус депутатов сохраняются вплоть до избрания в правомочном составе Верховного Совета 14-го созыва как легитимного парламента по Конституции 1994 года.

Отсюда я имею полное право сделать следующие выводы: 1) сейчас у нас нет легитимного парламента; 2) последний легитимный парламент — Верховный Совет 13-го созыва — был незаконно распущен в ноябре 1996 г.; 3) с того времени сохраняется легитимность парламента "№13" и его депутатов; 4) такое положение будет продолжаться до тех пор, пока народ не изберет демократический парламент.

Когда новый парламент будет сформирован в результате демократических выборов в правомочном составе (2/3 от 260 депутатов), то на его первую сессию надо пригласить депутатов, сохранивших верность Конституции 1994 г. и своим избирателям. Их надо наградить как героев, выплатить компенсацию за перенесенные страдания. Только получив "благословение" из их уст, можно приступить к законодательной деятельности.

ВЫБОРЫ

# *Женскими руками*

*Завершен важнейший этап кампании по выборам в местные Советы депутатов: сформированы участковые избирательные комиссии. Участковые комиссии в Беларуси — это святая святых избирательного процесса. В них включены люди, которые будут считать голоса во время досрочного и основного голосования, а также рапортовать о результатах выборов в округа.*

*Кто же эти люди?*

| Численный состав комиссий | Количество | % |
|---|---|---|
| Государственные служащие | 2454 | 3,7 |
| Граждане в возрасте до 30 лет | 6743 | 10,1 |
| Граждане Российской Федерации | 29 | 0,0 |
| Женщины | 47.741 | 71,2 |
| *Включено в состав комиссий представителей:* | | |
| граждан путем подачи заявлений | 24.917 | 37,2 |
| трудовых коллективов | 11.378 | 17,0 |
| общественных объединений, *в том числе* | 30.774 | 45,9 |
| политических партий: | 2737 | 4,1 |
| Белорусская аграрная партия | 531 | 0,8 |
| Белорусская партия левых "Справедливый мир" | 12 | 0,0 |
| Белорусская социал-демократическая партия (Громада) | 2 | 0,0 |
| Белорусская социально-спортивная партия | 582 | 0,9 |
| Коммунистическая партия Беларуси | 575 | 0,9 |
| Объединенная гражданская партия | 3 | 0,0 |
| Партия БНФ | 6 | 0,0 |
| Республиканская партия | 327 | 0,5 |
| Республиканская партия труда и справедливости | 699 | 1,0 |
| *других общественных объединений:* | 28.037 | 41,8 |
| Белая Русь | 4189 | 6,2 |
| Белорусский республиканский союз молодежи | 3354 | 5,0 |
| Белорусский союз женщин | 4010 | 6,0 |
| Белорусское общественное объединение ветеранов | 2642 | 3,9 |
| Федерация профсоюзов Беларуси | 8736 | 13,0 |
| иные общественные объединения | 5106 | 7,6 |
| ВСЕГО членов комиссий | 67.069 | 100,0 |

Сразу видны два главных канала поставки членов участковых комиссий — через неполитические общественные объединения (те, которые в самом низу таблицы), а также через граждан путем подачи заявлений. Этими двумя путями в комиссии попали почти 80% их членов. Через политические партии пробилось всего 4%, через трудовые коллективы — 17%.

Также наблюдается очевидный перекос с уровнем представительства женщин: в окружных и участковых комиссиях их аж 70%. Так что выборы будут "делаться" женскими руками.

Итак, белорусская избирательная машина заправлена и готова к работе. Всего в ней в этом году задействованы 82.069 человека — это такое маленькое временное государство под управлением Лидии Ермошиной, которое вновь соберется через год на президентских выборах, а затем еще раз — на парламентских выборах 2016 года.

**Олег СНОВ.**

МНЕНИЕ

# Когда ученым жилось лучше: в СССР или в независимой Беларуси?

Поводом для написания материала послужило выступление по Белорусскому телевидению двух академиков, которые говорили о достижениях отечественной науки, о колоссальных бюджетных ассигнованиях в научную сферу, о заботе А.Г.Лукашенко о развитии науки, о достойной и благополучной жизни и быте ученых. Они сравнивали положение ученых в советское время с нынешним. Подчеркивалось: ученые сегодня живут лучше, чем при советской власти.

Моя жизнь сложилась так, что 30 лет она была связана с армией и более 45 — с военными высшими учебными заведениями.

В советские времена военная наука имела колоссальные успехи. Например, не без участия ученых Беларуси были разработаны системы, которые позволяли засекать американские бомбардировщики Б-52, что сыграло определяющую роль во время войны во Вьетнаме. Эта война закончилась крахом американского вторжения и победой вьетнамских войск. Но вьетнамцы победили с помощью советской науки, советского вооружения, советских специалистов разных профессий.

Сегодня министр образования Сергей Маскевич говорит, что в программе развития образования, особенно высшего, сделан серьезный акцент на повышение качества образования. Никто не спорит: заявление правильное. Но качество образования напрямую зависит от педагогов, лекторов, ученых. Когда-то мой отец, отличник просвещения БССР, любил повторять: нельзя вылить из кувшина воду, если там ее нет. Педагог должен иметь знания и нести духовную чистоту. Он должен сам учиться ежечасно и ежедневно. Учителю необходимо время для подготовки к новому уроку, изучению новых методик и информаций по своему предмету, общению с семьей, участию в общественной работе. Тогда он сумеет передать ученику знания по своему предмету. Вот почему в советские времена была установлена недельная учебная нагрузка до 18 часов. И зарплата была не чета нынешней. В советское время зарплата учителя составляла не менее 150% от средней зарплаты по стране, а профессорско-преподавательского состава — 250%. В сельской местности учителям бесплатно выдавались топливо, земельные участки.

На особом положении стоял преподавательский состав высших учебных заведений. Учебная нагрузка составляла 550 часов в год при полной ставке зарплаты. В 550 часов включалось: заседания кафедр, руководство рефератами, курсовыми, обязательное чтение лекций, проведение всех видов занятий. Зарплаты преподавателей, особенно профессорского состава, приравнивались к зарплатам высших должностных лиц государства. Например, в 1953 году оклад союзного министра не превышал 5 тысяч рублей, а зарплата профессора достигала 10 тысяч, доцента — 8—9 тысяч. Потом было внесено дополнение: зарплата профессора и доцента не должна быть ниже зарплаты директора крупного завода. Следует отметить, что зарплата рабочих в 1953 году. колебалась от 800 рублей до 3 тысяч, шахтеры и металлурги получали от 6 до 8 тысяч в месяц. Зарплата молодого специалиста-инженера — 900—1000 рублей, старшего инженера — 1200—1300, секретаря райкома КПСС — 1500 рублей. Это говорит об отсутствии в то время уравниловки.

Лицам, имеющим ученое звание и степень, предоставлялась дополнительная жилая площадь не менее 20 кв. метров или отдельная комната.

Ну, и когда ученые жили лучше?

**Леонид ЦЫГАНКОВ, полковник в отставке, кандидат исторических наук, доцент.**

ЧУЛІ?

## Тарыфы на паслугі ЖКГ будуць павышаны з 1 сакавіка

*Індэксацыя тарыфаў ЖКГ цяпер будзе адбывацца штоквартальна: 1 сакавіка, 1 чэрвеня, 1 верасня і 1 снежня.*

Дадзеная норма замацавана ў Палажэнні аб парадку індэксацыі тарыфаў (цэн) на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва, якія субсідзіруюцца дзяржавай. Такім чынам, ужо з 1 сакавіка камунальныя паслугі падаражэюць з улікам росту заробкаў беларусаў у 4-м квартале 2013 года. Арыенціровачна павышэнне складзе каля 3 працэнтаў.

Савет міністраў будзе рэгуляваць тарыфы на цеплавую і электрычную энергію, газ. Усе астатнія (у тым ліку цэны на тэхнічнае абслугоўванне дома, водазабеспячэнне, водаадвядзенне, на карыстанне каналізацыяй і ліфтам) будуць рэгулявацца аблвыканкамамі і Мінгарвыканкамам па ўзгадненні з Мінэканомікі.

ПАРАЛЛЕЛИ

## У них — дешевеет, у нас — дорожает

*Падение мировых цен на нефть на белорусском рынке не сказалось — топливо дорожало несколько раз за 2013 год.*

По данным Eurostat и Росстата, в 2013 году в странах Евросоюза стоимость бензина снизилась на 2,6%, что связано с падением мировых цен на нефть на 4,5%.

Но на страны Таможенного союза общеевропейская тенденция не распространилась. Наоборот, в Беларуси в 2013 году бензин подорожал на 20%, в России и Казахстане — почти на 6%.

При этом белорусские власти ссылаются на то, что у нас бензин все равно стоит дешевле, чем в Европе. Забывая при этом напомнить, что у них и заработки значительно выше, чем в Беларуси.

СТРАТЫ

## Памерла жонка Алеся Адамовіча

*У мінулую нядзелю памерла Вера Адамовіч, удава пісьменніка Алеся Адамовіча.*

Веры Сямёнаўне ішоў 85-ы год, яна перажыла свайго мужа на 20 гадоў. Вера Адамовіч паводле адукацыі была філолагам.

ВІНШУЕМ!

# Супраць цячэння...

## *Леаніду Лычу — 85*



Існці насустрач ветру, плыць супраць цячэння здолее не кожны. І не кожны, ачомаўшыся, што відочна занесла не туды, зможа крута павярнуць назад і выбрацца на свой бераг. Неперакнаўчыя тлумачэнні іншых — кшталту "сіл не хапіла", "навошта?", "яно спакайней, калі ты, як усе" і г.д. — сваёй "рацыяй" тут рацыі не маюць. Бо ёсць куды больш высокая рацыя — мера чалавечай годнасці, выказаная з непахісным перакананнем Максімам Багдановічам:

*Проці цячэння вады*
*Зможа толькі жывое паплыць,*
*Хвалі ж ракі заўсягды*
*Тое цягнуць, што скончыла жыць.*

На шчасце, я ведаю людзей, што жывуць менавіта па гэтай меры. Адзін з іх — знаны наш гісторык, доктар навук, прафесар **Леанід Міхайлавіч ЛЫЧ.** Ведаеце яго і вы, шаноўныя чытачы "Народнай Волі". Цягам многіх год ён выступае на старонках газеты са змястоўнымі навукова-публіцыстычнымі артыкуламі. Глыбока даследуючы мінулае нашай Бацькаўшчыны і пільна ўзіраючыся ў дзень сённяшні, вучоны ўпарта шукае адказ на хвалюючае ўсіх, хто неабыякавы хаця б да ўласнага лёсу, глабальнае пытанне: як жа сталася, што мы, беларусы, ніяк не пабудуем сапраўды незалежную, вольную, годную, прыгожую Беларусь, хаця ўжо больш за 20 год жывём пры абвешчанай незалежнасці? Чаму ніяк не вырвемся з путаў савецкага мінулага, якія замінаюць шпарка крочыць у заўтра і ўбачыць спраўджванне лепшых надзей?

Нястомны змагар за Нацыянальную ідэю бачыць адраджэнне краіны не інакш як на грунце роднай мовы, вяртання народу гістарычнай памяці, багаццяў духоўных скарбаў і сапраўднай культуры, выхавання новых пакаленняў патрыётаў Айчыны на лепшых традыцыях гераічных, працавітых, даравітых нашых продкаў і сучаснікаў. Перакнаўчае, нераўнадушнае слова чалавека, які сам жыве трывогамі і светлымі памкненнямі суайчыннікаў, даходзіць да іх, кранае за жывое, выклікае шчырую ўдзячнасць і павагу да навукоўца за яго грамадзянскую пазіцыю, мужнасць і высакародства.

Некалькі год таму "Народная Воля" публікавала грунтоўны нарыс, прысвечаны цікаваму жыццёваму шляху Леаніда Міхайлавіча Лыча. Таму зараз толькі пункцірна нагадаю вехі на гэтым шляху, пачэсным і ў многім павучальным. Пачынаўся ён, бадай, звычайна і, на жаль, тыпова для моладзі пасляваенных гадоў — падобна расказанаму другім выдатным навукоўцам-адраджэнцам і нядаўнім юбілярам прафесарам Міколам Савіцкім.

...Падлетак з вёскі Магільнае на Уздзеншчыне Лёня Лыч трапляе на вучобу ў Мінскі статыстычны тэхнікум. Ашаломлены нязвыклым рытмам вялікага горада, а галоўнае, кплівымі насмешкамі сталічных аднакашнікаў і нават некаторых выкладчыкаў над "деревенщиной" за яго "некультурную" мову, нея́к губляецца, пачынае падробліваца пад усіх, выкараняючы сваю беларускасць. І вось ён — ужо амаль "рюский", хоць і не зусім, але ўсё ж... Развітаўшыся з нецікавай яму статыстыкай, едзе шукаць прызванне далей — у Новасібірскую ваенную вучэльню. Аднак і там зразумеў: не тое, не яго... Далейшая дарога закінула ў сталіцу Башкірыі — Уфу. З універсітэцкім дыпломам настаўнік гісторыі пачынае працоўную біяграфію ў школе.

Паступова, пакрысе прыходзіць одум: як жа так — выкладаю нешта мясцовым вучням пра іх зямлю, якую, аднак, толкам і не ведаю. А калі цікаўныя папросяць расказаць пра сваю, беларускую, што ім адкажаш? Сорам, ганьба не ведаць свайго. Не, цяпер — дадому, толькі дадому! Ён вяртаецца на Радзіму не адзін — з любай жонкай. І тут — во дзіва! — не ён, а яна, карэнная сібірачка, стала настаўніцай-выхавальніцай мужу-беларусу ў яго сапраўдным вяртанні да беларускасці... Не згадаць пра незвычайную жанчыну — недаравальны грэх...

Не ведаю ўжо, як яе напачатку назваць па імені. Пры знаёмстве ва Уфе яна прадставілася Антанінай, так і зваў яе Леанід Міхайлавіч усё жыццё. Хаця, канечне, жонка даўно раскрыла блізкаму чалавеку сваю тайну, пра якую маўчала перад іншымі. Тут спляліся і трагедыя, і дэтэктыў, як і ў многіх людскіх лёсах "шчаслівай савецкай пары".

...Пры нараджэнні, у 1930-м, дзіця ахрысцілі згодна з праваслаўным календарам Ефрасінняй. Быў самы разгар бальшавіцкай вайны з "опіумам", разбурэнне цэркваў, рэпрэсіі супраць святароў, ганенне на вернікаў. І бяда не адна: калектывізацыя, раскулачванне. Іх сям'я — толькі за тое, што ўсе змалку да старасці працавалі да сёмага поту, таму і не галадалі, занесена ў спіс "крывасмокаў", "ворагаў народа". Перад выкідваннем з роднага гнязда бацькі яшчэ паспелі перапісаць у сельсавеце "крамольнае" імя дачушкі-немаўляткі на іншае — Антаніна. Пры пераправе праз раку мясцовыя сяляне адбілі ва ўзброенага канвою ўсімі паважаную рэпрэсаваную сям'ю і далі добрых коней. Але ўцячы ад бяды "злачынцам", якім пагражала бязлітасная кара, не ўдалося: на бязмежных абшарах СССР не было дзе ратавацца! Хутка не стала бацькі і маці. Маленькая Тоня, безабароннае дзіця, не смела нікому і заікнуцца, як яе насамрэч завуць, адкуль з'явілася... Тое, што перажыла, праз якія недзіцячыя пакуты прайшла, — бадай, і шэкспіраўскае пяро спынілася б у бяссіллі перадаць. Нават апынуўшыся ў Башкірыі, падрослая Антаніна не магла пазбавіцца страху: вось-вось знойдуць, схопяць...

У нязнаную Беларусь яна з мужам ехала з адным жаданнем быць падалей ад небяспечных мясцін. Сама не гадала, што, толькі ўбачыўшы гэтую зямлю, палюбіць яе з першага погляду, а мову яе, пачутую ў вёсцы ад мужавай маці, — з першага гуку: якая прыгажосць, выразнасць, зручнасць у маўленні! Адразу стала вывучаць яе, засвоіла цудоўна і вельмі хутка. Леанід Міхайлавіч — разам з ёй. Не стамляўся захапляцца жончыным талентам, кемлівасцю, воляй. Радаваўся яе поспехам, настойлівасці і энергіі, калі Ефрасіння Георгіеўна Андрэева (яго Тоня ўжо вярнула сабе сапраўднае імя), працуючы ў сферы адукацыі, стала дзейснай прыхільніцай навучання беларускіх дзетак і моладзі па-беларуску, стваральніцай беларускай педагагічнай школы, любімай выкладчыцай роднай для студэнтаў мовы ў сталічным педінстытуце. Стала доктарам філалогіі, прафесарам, аўтарытэтам у абранай галіне. А якія выдатныя артыкулы ў абарону гэтай мовы пісала ў навуковыя выданні, у "Народную Волю"!

Поспехі жонкі ў любімай і натхнёнай справе штурхалі і Леаніда Міхайлавіча шпарка ісці наперад, без стомы раскопваючы завалы, пад якімі доўга хавалі сапраўдную гісторыю яго Радзімы, усё больш ён пачуваў сябе сынам Беларусі. Калі аднаго разу, дзесьці на пачатку 1970-х, на нейкім важным сходзе акадэмічнай грамадскасці ён, супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, зрабіў сваё выступленне па-беларуску, у вялікай зале раптам бы выбухнула бомба, а потым усталявалася абсалютная цішыня... Не, яго не ўкрыжоўвалі, але глядзелі з непрыхаваным здзіўленнем. А многія запаважалі калегу, які не збаяўся — не толькі на той момант — плыць супраць цячэння і шмат чаго дасягнуць у плённай, асветленай высокай мэтай працы.

Сёння імя доктара гістарычных навук Леаніда Лыча, самаахвярнага ў сваёй шматграннай дзейнасці ў рэчышчы грамадскай і навукова-асветніцкай дзейнасці на карысць Бацькаўшчыны, на слыху не толькі навукоўцаў. Да яго з цеплынёй і шчырасцю ставяцца ўсе, хто дбае аб заўтрашнім дні Беларусі.

А ён і ў свае ўжо 85 працуе, працуе, працуе. Піша, само сабою, на гістарычныя і актуальныя, сучасныя праблемы. Не так даўно выпусціў кнігу ўспамінаў пра незабыўную сваю Ефрасінню Георгіеўну. Некалькі год таму яе, на бяду, не стала. Але ёсць кніга кахання і вернасці, высокіх чалавечых пачуццяў — нявыдуманых, ненафантазіраваных і таму асабліва хвалюючых. А ў рэдакцыі "Народнай Волі" чакае свайго часу на выданне дакументальная аповесць аб перажытым сям'ёй Лычоў і землякамі з вёскі Магільнае падчас ваеннага ліхалецця — цікавейшая, між іншым, рэч.

Пытаюся ў Леаніда Міхайлавіча, як пачуваецца ў гэтыя юбілейныя дні.

— А цудоўна, як на дваццаць! — весела адказвае ён. — Ну, калі і не зусім на дваццаць, то ўсё роўна: скаргі на хваробы, нямогласць і ўсё такое — не мая тэма.

— А як ставіцеся наогул да гэтай лічбы — 85?

— Калі сплюсаваць 8 і 5, атрымліваецца 13. Кажуць, нешчаслівая лічба. Ну і хай сабе кажуць. Я ж кажу пра сябе, што шчаслівы. Хоць не ўсё, далёка не ўсё, што магу, зрабіў для Беларусі, але час, спадзяюся, яшчэ ёсць. Вось і звяртаюся да ўсіх, хто здолен чуць: "Людзі, дарагія, жывіце дзеля Беларусі!"

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## *Васіль ДРАНЬКО-МАЙСЮК:*

# «Канфлікт п'есы пра Мулявіна будзе творчы»

*Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Горкага, які па-ранейшаму паміж сабой мы называем Рускім тэатрам, рыхтуе чарговую прэм'еру. Але цікавасць да яе ўжо цяпер выходзіць за рамкі чарговага новага спектакля, таму што п'еса, над якой працуе рэжысёр Валянціна Еранькова, пра славутага музыканта Уладзіміра Мулявіна, постаць якога для Беларусі ўнікальная, значная. Аўтар п'есы — малады драматург **Васіль ДРАНЬКО-МАЙСЮК**. Гэта яго дэбют. Мы папрасілі расказаць яго аб сваёй працы. Прызнацца, не без ваганняў (што, маўляў, казаць загадзя?) Васіль пагадзіўся адказаць на некалькі пытанняў.*

*Прэм'ера спектакля чакаецца ў канцы сезона.*



**— Што для маладога чалавека стала падставай узяцца за п'есу пра Уладзіміра Мулявіна? Дарэчы, ці ёсць у вас музычная адукацыя?**

— Па першай адукацыі я культуролаг, па-другой — рэжысёр драмы: пачынаў у Генадзя Давыдзькі, а скончыў вучобу ў Рыда Таліпава. Ну а некалі, яшчэ ў юнацтве, спяваў у гурце "Жаба ў каляіне", так што крышку з музыкай сутыкаўся. Уладзіміра Мулявіна я заўсёды цаніў і любіў, вывучаў яго творчасць, якая мяне заўсёды натхняла і натхняе на светлыя думкі. Мулявін — самы яркі наш музыкант! Ён — адзіны! Ён спраўдзіўся ва ўсіх кірунках: і дзве рок-оперы зрабіў, і шмат якія цудоўныя праграмы, у тым ліку праграму "Вянок"; стварыў таксама незабыўныя эстрадныя песні і такія канцэптуальныя рэчы, як "Перапёлачка". Яму падуладны былі ці не ўсе жанры... Заказ на п'есу паступіў ад Рускага тэатра, ад рэжысёра Валянціны Ераньковай. Спадарыня Валянціна пазваніла бацьку, бо не ведала майго тэлефона, і прапанавала мне ўзяцца за цікавую работу. Па сутнасці, гэта мой дэбют як драматурга. Веру, што атрымаецца яркае тэатральнае відовішча, і чакаю прэм'еру. Дзякуючы Рускаму тэатру, дзякуючы Валянціне Ераньковай у мяне з'явілася п'еса "Пясняр", якая, спадзяюся, спадабаецца нашым гледачам.

**— Канфлікт — аснова добрага сюжэта. Якім ён будзе? Наогул, гэта біяграфічная п'еса?**

— Як сказаць, каб не выдаць таямніцу?.. Буду асцярожна падбіраць словы. Канфлікт у сюжэце будзе творчы... П'еса не пра жыццё Мулявіна-чалавека, а пра Мулявіна-музыканта, а яшчэ дакладней — пра Песняра. Твор сімвалічны. У ім герой сустракаецца з нашымі класікамі, якіх ён музычна і вакальна ажывіў у сваёй творчасці. Ён вядзе гутаркі з Цёткай, Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам. Сустракаецца і з сучаснікамі, з тымі, хто часта не разумеў яго музыку і цягнуў у балота папсы, калі ён ужо выйшаў на абсалютны творчы ўзровень.

**— А з міністрам культуры не сустракаецца?**

— Не, у гэтай п'есе не сустракаецца... А калі гаварыць сур'ёзна, то, упэўнены, пра Мулявіна будуць пісаць іншыя аўтары таксама. У тым ліку і новыя п'есы. Мулявін з кагорты вялікіх! Ён там, дзе Багушэвіч, Цётка, Янка Купала, Быкаў, Караткевіч... Творчы лёс Мулявіна роднасны нашаму нацыянальнаму зместу.

**— Святлана Аляксандраўна Мулявіна-Пенкіна ведае пра п'есу? Яна строгі суддзя.**

— Я не сустракаўся са спадарыняй Святланай. Ведаю яе кінаработы, ведаю як запамінальную артыстку. Са спадарыняй Святланай знаходзяцца ў кантакце рэжысёр спектакля Валянціна Еранькова і кампазітар Аляксей Еранькоў. Святлана Аляксандраўна ў курсе таго, што ёсць п'еса, што ідзе работа на спектаклем. Здаецца, адмоўных заўваг у яе няма.

**— Вы ўяўляеце свой першы прыход на рэпетыцыю? Вы гатовы да таго, што п'есу... не пазнаеце?**

— Я гатовы да ўсяго. Памятаю выдатны спектакль тэатра Фаменкі "Тры сястры", дзе рэжысёр вывеў на сцэну самога Чэхава. Дык вось, драматург Чэхаў пачынае тлумачыць акцёрам: "Тут паўза!" І яшчэ нешта пачынае тлумачыць. Акцёры ж адмахваюцца ад Чэхава: "Што-што? Якая там паўза?! Ідзі адсюль!" Мне, натуральна, могуць сказаць тое ж самае. Я па сваім рэжысёрскім вопыце гэта ведаю, хаця мой вопыт не такі і вялікі. Пастаноўшчыкі заўсёды робяць нейкі свой варыянт, але галоўнае, каб захаваўся нерв твора, той сэнс, дзеля якога п'еса зроблена.

**— Ці ёсць у п'есе любоўная лінія? Музыкант і яго жанчыны-музы...**

— Безумоўна, ёсць жанчына. Але гэта жанчына-сімвал, жанчына-паэзія. Словам, ніякіх пашпартных дадзеных. Для фантазіі поўная прастора... Ёсць у п'есе і класічная для нас сітуацыя, сітуацыя расчаравання: я працую, я спадзяюся, я не даю нацыянальнаму агню знікнуць, а ў выніку — што? Кожны рана ці позна сутыкаецца з адчаем. Нават Багдановіч усклікаў: "Ой, чаму я стаў паэтам у нашай беднай старане?"

**— Вы гатовы апынуцца пад лупай крытыкі? Сыну вядомага паэта Леаніда Дранько-Майсюка не спусцяць нічога.**

— Крытыкі не баюся, бо маю характар.

**— Чыё меркаванне наконт п'есы вы асабліва цэніце? Параіла б вам сказаць, што перш за ўсё для вас важкае меркаванне дырэктара Рускага тэатра. Жартую, вядома.**

— І дырэктар тэатра, і мастацкі кіраўнік — людзі з густам... Было некалькі варыянтаў п'есы, яна нараджалася складана. Па-першае, п'есу чытала маці, яна чалавек праўдзівы, што думае, тое і кажа, і таму, як бы гэта банальна ні гучала, яе меркаванне для мяне галоўнае. Шчыра кажучы, мне пашанцавала, у мяне аб'ектыўныя бацькі, і, калі што, яны прама кажуць: "Гэта, лічым, трэба перарабіць!" Даваў свой твор чытаць сябру — чужое вуха заўсёды пільнае. Ну і, безумоўна, з вялікай увагай прыслухоўваюся да прапаноў стваральнікаў спектакля Валянціны і Аляксея Ераньковых. Я ведаю, што спадарыня Валянціна чалавек таленавіты, яна не баіцца эксперыментаў, бясстрашная ў творчасці, я ёй давяраю.

**— Зараз вы жывяце і працуеце ў Маскве — акцёрам у дзіцячым тэатры "СНАРК", а часам выступаеце і як рэжысёр. Гэта цяжка — змена амплуа? Зноў-такі знакаміты Фаменка казаў, што акцёры, якія час ад часу працуюць рэжысёрамі, перастаюць быць добрымі акцёрамі. Таму што нельга быць то ўнутры, то звонку. Можна з глузду з'ехаць, мяняючы ролі.**

— Я не думаю пра тое, які я акцёр. Проста зарабляю акцёрствам грошы.

**— Вы такі бязлітасны да сябе?**

— Я праўдзівы. У нейкіх рамках я магу добра іграць, у нейкіх — адчуваю сябе не надта свабодным. Я акцёр пэўнага амплуа, пэўных фарбаў. У Маскве маю вольны акцёрскі хлеб. З аднаго боку, бывае страшнавата, а бывае, і шанцуе. Масква добрая тым, што там можна займацца ўсім творча-нечаканым, і гэта корміць. Мая маці нарадзілася ў Маскве, гадавалася ў самым цэнтры! Мой бацька "прайшоў" Маскву, ён вучыўся ў Літаратурным інстытуце! Гэта таксама натхняе.

**— Кім вы сябе бачыце ў лепшых марах?**

— Самае прыемнае — пісаць. Пісаць па-беларуску. І маляваць — я ж скончыў і мастацкую школу, вучыўся ў Рыгора Сітніцы. А галоўнае — не баяцца жыць! Поле беларускае вечнае, і ў гэтым полі не трэба ад страху заплюшчваць вочы!

**Алена МАЛОЧКА.**

ЗДАРЭННІ

## У Пінску паранены дырэктар школы

Серыйнага злодзея дапамог затрымаць дырэктар адной з пінскіх школ.

Як паведаміла прэс-служба УУС Гродзенскага аблвыканкама, злачынец спецыялізаваўся на крадзяжы з кабінетаў розных арганізацый. Прычым не ў адным рэгіёне, а па ўсёй краіне. Падазронага аб'явілі ў вышук, на арыенціроўцы была фатаграфія. Дырэктар пінскай школы ўбачыў падобнага чалавека, які прадставіўся дзядулем аднаго з вучняў. Аднак кіраўнік школы запрасіў яго ў свой кабінет і выклікаў міліцыю. Тады злачынец, зразумеўшы, што да чаго, дастаў з кішэні нож і ўступіў з дырэктарам у бой. Пакуль падаспела міліцыя, дырэктар атрымаў парэз у вобласці шыі.

Затрыманы аказаўся 53-гадовым грамадзянінам Украіны. Ён вёў бадзяжны лад жыцця, але па знешнім выглядзе не моцна адрозніваўся ад звычайных людзей, паколькі рэгулярна мяняў рэчы і наведваў лазню. Менавіта гэты факт доўгі час дазваляў яму заставацца ў цені, нічым не адрозніваючыся ад іншых наведвальнікаў арганізацый, дзе ён краў самыя розныя рэчы. Напрыклад, у суседняй Гродзенскай вобласці мужчына здзейсніў як мінімум сем крадзяжоў.

РЭГІЁН

## Рыбак стане сімвалам Браслаўшчыны



Завяршыўся конкурс на лепшы эскіз скульптурнай кампазіцыі — сімвала Браслаўшчыны, які праводзіўся мясцовым райвыканкамам.

Браслаўшчына — край азёр, а значыць, і рыбалкі. Таму сімвалам горада і раёна стане рыбалоў. Макет будучай скульптуры вырабіў прафесійны скульптар з Віцебска **Іван Казак.**

## Помнік Сімяону Полацкаму з'явіцца ў Маскве

*Помнік выбітнаму асветніку, праваслаўнаму і грэка-каталіцкаму дзеячу XVII стагоддзя Сімяону Полацкаму ўсталююць у Маскве.*

Пра гэта паведаміў міністр культуры Беларусі. "З мэрыяй Масквы ўжо ўзгоднена месца, вышукваюцца грошы", — заявіў Барыс Святлоў.

Нагадаем, што Сімяон Полацкі нарадзіўся ў заможнай купецкай сям'і ў Полацку, атрымаў бліскучую адукацыю ў навучальных установах Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. У 1664 годзе Сімяон Полацкі выехаў у Маскву, а ў 1667-м яго прызначылі выхавальнікам і настаўнікам дзяцей цара Аляксея Міхайлавіча. Найбольшай падтрымкай карыстаўся ў цара Фёдара Аляксеевіча (1676—1682). У 1678-м заснаваў незалежную ад патрыяршай цэнзуры Верхнюю друкарню, першай кнігай якой быў "Букварь языка славенска". З ініцыятывы Сімяона Полацкага ў Маскве адкрылася першая вышэйшая агульнаадукацыйная навучальная ўстанова — Славяна-грэка-лацінская акадэмія.

Адзін помнік Сімяону Полацкаму ўжо існуе — ён быў адкрыты ў Полацку 7 верасня 2003 года ў дзень святкавання беларускага пісьменства. Аўтары помніка: скульптар Аляксандр Фінскі, архітэктары Георгій Фёдараў і Наталля Цавік.

ТАК ДУМАЮ!

## Наш шлях?

Давялося глядзець і слухаць выказванні Лукашэнкі наконт спраў у дрэваапрацоўчай прамысловасці. Былі і слушныя прапановы, але вось наконт крымінальнай адказнасці кіраўнікоў, якія не спраўляюцца з пастаўленымі заданнямі, я не згодны.

Хіба можа добра працаваць чалавек, над якім вісіць пагроза крымінальнай адказнасці?

Так, трэба аддаваць пад суд тых, хто абкрадае дзяржаву, працоўных людзей, злоўжывае сваім службовым становішчам, бярэ хабар і гэтак далей. Але ж на гэтыя пасады многіх з гэтых людзей прызначае сам прэзідэнт. Значыць, ён таксама павінен несці адказнасць за людзей, якім ён даверыўся.

А калі кіраўнік прадпрыемства ці міністр не спраўляецца, дык чаго яго запалохваць, абяцаць кайданы? Здымаць трэба.

Патрэбна даваць дарогу маладым, кампетэнтным у справе людзям. Бо сённяшнія начальнікі, калі што, дык скажуць: "А з мяне што? Я на пенсіі".

Па-другое, ёсць жа Працоўны кодэкс, дзе прапісаны працоўныя адносіны бакоў. І як тады разумець словы А.Лукашэнкі, што, маўляў, у іх, кіраўнікоў, не будзе ніякай адказнасці за працоўныя адносіны на вытворчасці, абы дасягнулі вынікаў. Гэта ж трэба разумець так: "Вы там кіруйце, рабіце, патрабуйце што хочаце з людзей, абы вынікі былі, дасягненні пастаўленых мной задач".

І гэта гучыць з вуснаў чалавека, які заяўляе, што ён гарант Канстытуцыі. Значыць, калі ты начальнік, дырэктар, міністр, дык выбірай: ці табе кайданы, ці ты павінен загадамі, процізаконнымі дзеяннямі катаваць раба свайго?

Безумоўна, тут ёсць прагрэс у параўнанні з часамі Спартака, бо тады, каб атрымаць "паспяховыя вынікі", рабоў-гладыятараў падштурхоўвалі, каб яны ішлі адзін супраць аднаго, калёнымі пікамі. Цяпер жа новыя тэхналогіі — працоўныя кантракты, крымінальная адказнасць. Такі ён, свой беларускі шлях?

**Валерый Радзівонавіч ДЗЯКАЎ.**

*г.Слуцк.*

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

## Как выжить почтальону?

Выписали "Народную Волю" на первое полугодие, но теперь не знаем, как ее получать. В январе нам ее доставили только два раза, и с тех пор по вторникам и пятницам ходим сами на почтовое отделение за газетой. В нашем почтовом отделении №101 осталось на работе только два почтальона. Из-за низкой зарплаты люди не хотят работать и увольняются. Нам сказали, что в феврале и у них заканчиваются контракты и отделение вообще могут закрыть.

На самом деле с почтальонами беда по всему городу. Что будет дальше? Как можно обходиться без почтового отделения? Доставка газет — одна из обязательных функций почты, но есть ведь и много других функций, без которых люди не смогут обойтись: отправка денежных переводов, заказных писем, бандеролей, посылок и другое.

И еще: как можно выжить почтальону на те суперскромные деньги, которые ему платят? Этот вопрос, похоже, волнует только самих работников почты. Для чиновников сейчас главное — провести чемпионат по хоккею...

**В.Д.ЛУКАШЕВИЧ.**

*Минск.*

КОММЕНТАРИЙ

## Татьяна ТИХОНОВИЧ: «В прошлом году в отделении не осталось ни одного человека — все написали заявление об увольнении...»

*"Народная Воля" связалась с руководством почтового отделения №101 с просьбой прокомментировать ситуацию.*

— Да, у меня была такая ситуация в январе, когда работали только два почтальона, — *подтвердила замначальника почты* ***Татьяна Николаевна Тихонович***. — Было три, один ушел в отпуск, поэтому мы просто физически не успевали доставлять все газеты подписчикам. А с февраля у нас полностью укомплектован штат.

**— А правда, что зарплата у почтальонов — всего 1,5 миллиона?**

— Нет, выходит немного больше: где-то 2—2,5 миллиона.

**— Я так понимаю, что сегодня в Минске вообще очень сложная ситуация с почтальонами — знаю, что в некоторых почтовых отделениях просто некому работать.**

— Ой, у нас не только с почтальонами проблема, но и с операторами связи. Очень большая текучка кадров. Многие начали увольняться в связи с тем, что невысокая зарплата, очень часто лишают премии.

**— А за что премии лишают?**

— У нас очень маленькие оклады, но достаточно весомая премия: доходит до 70—80 процентов. Она и составляют большую часть дохода. Но из-за жалоб нас могут лишить и 50 процентов премии, и даже всю премию снять. Поэтому люди и уходят. Кто же согласится работать на таких условиях за копейки?

Я набрала работников, пока все работают, но как дальше будет — не знаю. У меня самой в ближайшее время заканчивается контракт, и я думаю, продлевать его или нет.




**— Мне кажется, руководство "Белпочты" должно быть заинтересовано в том, чтобы создать комфортные условия для своих работников...**

— Пока складывается ощущение, что мало кто думает о том, как удержать работников. Я в свое время писала докладную руководству о том, что у меня нет кадров. Мне пришел ответ: мол, извините, помочь не можем. Я и сама газеты носила. Но ведь у меня есть и своя работа, которую нужно делать. Иногда до 11, до 12 часов ночи здесь находишься... А у нас люди такие — они только жалуются! Писать все научились, и чуть что не так — сразу жалоба!

**— Но, согласитесь, с другой стороны, жалобщиков тоже можно понять: ты выписал какую-то газету, оплатил услугу по доставке, а издание или вообще не приносят, или приносят через несколько дней, ссылаясь на нехватку рабочих рук. Ну раз подписчик вошел в ситуацию, ну два, а когда процесс становится хроническим, ясное дело, начинают жаловаться... В конце концов, не устраивает зарплата — увольняйтесь, ищите другую работу, ставьте ультиматумы перед начальством, выходите на площадь...**

— Знаете, если почтальоны начнут устраивать забастовки, работать вообще будет некому. У нас в прошлом году в отделении была ситуация, когда не осталось ни одного человека — все написали заявления об увольнении. Нас вызвали к начальству: разбирались, уговаривали, просили, обещали хорошие условия труда, мы поверили и остались. Но, к сожалению, очень мало что изменилось...

**Марина КОКТЫШ.**

РЕЗОНАНС

# Миротворец с берегов Буга

## Открытое письмо Анатолию Левковичу

Не скрою, мое внимание привлек в первую очередь заголовок статьи "Переломный момент в спасении Беларуси" ("Народная Воля" за 14.01.14 г.). Подумалось: наконец-то! Найден вариант выхода из почти 20-летнего политического тупика! Но когда я заглянул в конец статьи и увидел фамилию одного из ее авторов — Анатолий Левкович, то сразу понял, что это очередной блеф. Именно такой вывод остался и после прочтения материала.

У философа Левковича все та же, простите за откровенность, бредовая идея — примирить волка и ягненка, или, как в народе говорят, скрестить ежа и ужа. Он упрекает оппозицию в том, что, мол, она не хочет путем диалога с властью стать системной, не желает "рулить" совместно с режимом. Но тут мне хочется спросить у регионального философа Левковича: в какой стране он живет и что он думает о "последней диктатуре Европы"? Ведь главный ее начальник неоднократно заявлял, что он, мол, отморозкам страну не отдаст. Это значит, что режим и мысли не допускает о том, чтобы как-то поделиться с оппозицией властью.

Я не стану тут проводить на этот счет известные всем читателям газеты факты, а сошлюсь лишь на самый свежий из них, который, кстати, опубликован в том же номере "Народной Воли", что и статья философа Левковича в соавторстве с А.Микулиным. Этот факт изложен в корреспонденции под заголовком "Анатоля Лябедзьку везлі ў бок крэматорыя і Курапат...".

Возможно, что когда сторонник компромисса с режимом Левкович прочитал ее, ему стало стыдно (это если есть совесть) за то, что они несли в своем "Переломном моменте"... Ведь тот режим, в который он, Левкович, пытается вклинить оппозицию и сделать ее системной, видит эту самую оппозицию в гробу в белых тапочках и зарытой в кустах без опознавательных знаков. Не зря же одного из лидеров оппозиционной партии ОГП Анатолия Лебедько служители порядка свозили на "экскурсию" в крематорий и в Куропаты. Вероятно, по дороге они интересовались у своего пассажира, какой уход в мир иной он предпочитает: кремацию или сырую яму без креста, как, возможно, у его предшественников, борцов с диктатурой Юрия Захаренко и Виктора Гончара?

Вот такая философия у режима, господин миротворец! А вы говорите про компромисс. Впрочем, эту "халявную экскурсию" Анатолию Лебедько стражи порядка устроили за пустячный факт: он собирал подписи вместе со своим коллегой по партии за отмену очередного сомнительного автоналога. При задержании ему, как обычно, саданули по почкам, а потом усадили в свою машину и повезли по изложенному выше маршруту: крематорий—Куропаты.

А вот тут следует заметить, что лидер ОГП на днях сделал попытку прорваться в Минский горсовет, чтобы встрять в ту самую системную оппозицию, о которой долдонит миротворец Левкович. И вот чем это обернулось: 17 января территориальная комиссия Центрального района г.Минска отказала в регистрации четырех (!) инициативных групп по сбору подписей за выдвижение лидера ОГП А.Лебедько кандидатом в депутаты Минского горсовета. А позднее не зарегистрировали единую группу. Встает вопрос: как же пробиться в ту самую системную оппозицию рядовому смертному, если даже одному из ее лидеров туда все пути перекрыты?

Удивляет и тот факт, какая короткая память оказалась у господина философа-миротворца. Ведь всего лишь четыре года назад почти из десятка оппозиционеров, дерзнувших объявить себя кандидатами на пост президента, половина была брошена в тюрьмы. Вот их фамилии: Андрей Санников (даже с женой Ириной Халип), Алесь Михалевич, известный поэт Владимир Некляев (предварительно жестоко избитый), Николай Статкевич (который и по сей день томится на нарах).

А если копнуть чуть глубже, то вообще всплывет на поверхность убийственный факт из биографии этого, с позволения сказать, социал-демократа, когда он не только не проявил никакой солидарности с Александром Козулиным, брошенным в тюрьму за то же кандидатство в президенты, что и названные выше В.Некляев и К°, но и по-быстрому занял пост лидера социал-демократической партии, который освободился после ареста бывшего ректора БГУ. Казалось бы, находясь у руля обезглавленной партии, философ-демократ Левкович соберет все свое социал-демократическое войско и заявится к стенам каземата "Витьба-3", где мужественно сражался в одиночку с последней диктатурой Европы объявивший голодовку коллега и соратник по партии Александр Козулин, и решительно потребует: "Свободу узнику совести Козулину!" Но не тут-то было. В кресле лидера партии господин Левкович сидел как мышь под веником. Он нутром ощущал, что с диктатурой шутки плохи. Сразу можно загреметь на нары в соседнюю с бывшим шефом камеру...

Вероятно, тогда-то в философской голове господина Левковича и родилась штрейкбрехерская идейка — к диктатору надо идти с диалогом на поклон. Только вот поклон такого сомнительного оппозиционера тому вряд ли нужен. Он не собирается делить власть с "отморозками".

Развязка с запутавшимся в трех соснах "оппозиционером"-миротворцем наступила очень скоро. В конце 2011 года он был исключен из партии БСДП (Громада), которую он возглавлял и которую, я считаю, пытался развалить. С тех пор философ Левкович пытается создать какую-то свою организацию, главным принципом которой будет компромисс с диктатурой. Вот кто только пойдет к такому лидеру?

Что же касается Александра Козулина, то он, выйдя из тюрьмы, вышел и из такой партии, которая не ударила палец о палец, чтобы поднять общественность страны на освобождение своего лидера.

Подводя итог этих заметок, хочется сказать, что, присылая в "Народную Волю" свою статью, философ А.Левкович не столько думал о спасении родной страны от жесткого режима, сколько о легитимизации последней диктатуры Европы. Но миссия эта очень тяжелая и даже неподъемная. Даже будь семи пядей во лбу философ с берегов Буга и даже будь он брестским стрелочником, ему все равно не удалось бы открыть путь на Запад невъездному в Европу белорусскому режиму.

**Вячеслав ВОЛЬСКИЙ, житель Минска.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Колькі зуброў у Белавежскай пушчы?

*З такім пытаннем звярнуўся ў рэдакцыю чытач з Магілёва* ***Андрэй Комлеў.*** *Вось адказ.*

Спецыялісты правялі "перапіс насельніцтва" ў Белавежскай пушчы, падлічыўшы самых прыярытэтных насельнікаў нацыянальнага парку — зуброў.

Высветлілася, што на тэрыторыі Белавежскай пушчы жыве 414 дарослых зуброў і 46 цялят.

Прычым найбольшая колькасць зуброў жыве ў цэнтральнай частцы пушчы, а менавіта ў Хвайніцкім і Сухапольскім лясніцтвах.

Дарэчы, аптымальная колькасць зуброў для Белавежскай пушчы, па меркаванні спецыялістаў, — 350 галоў, таму перапіс канстатаваў перанаселенасць. А ўсяго ў Беларусі 1150 асобін гэтых жывёл. Па колькасці зуброў мы з'яўляемся другой краінай у свеце. На першым месцы — Польшча.

З НАГОДЫ

## Дзе «светлыя галовы»?

Выбачайце, канешне, але мне проста смешна слухаць пра тое, да якіх вышынь мы дайшлі: і да космасу, і да ядзернай энергетыкі, і да асваення Антарктыды... І навукоўцы ў Беларусі цудоўныя, і галовы разумныя, і ўсё перадавое мы бяром на ўзбраенне. Патлумачце мне тады: чаму ўжо шмат гадоў нельга вырашыць простую задачу ў мінскім метро і зрабіць так, каб не сыходзіліся два цягнікі разам на адной станцыі? Бо тады на станцыях (асабліва на станцыі метро "Кастрычніцкая") і натоўп, і цісканіна, і дыхаць няма чым, і эскалатары пад пагрозай абвалу ад вялікай колькасці людзей. Ну дык дзе тут нашы "светлыя галовы"? Чаму яны не могуць выканаць простую задачу — аптымізаваць рух цягнікоў так, каб было зручна і тэхніцы, і людзям?

**Галіна ВЫСОЦКАЯ.**

*Мінск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Ад дубіны і пагроз не пацягне конік воз

**Нядаўна Аляксандр Лукашэнка прагаварыўся: аналіз паказаў, што ягоныя ўказанні, распараджэнні, дэкрэты апошнім часам амаль не выконваюцца чыноўнікамі. Не ўратоўваюць сістэму і публічныя вокрыкі ды разносы.**

*У мінулыя часіны*
*Без кабылы ці каня*
*(А працей — без конскай сілы)*
*Не пражыць было ні дня.*
*Ці з дубровы дроў прывезці,*
*Ці ўзараць вясной загон,*
*Ці саломы ўкрасці дзесьці —*
*Спраў, так мовіць бы, мільён.*
*Цяжка ў вёсцы небараку,*
*Калі ў працы ён адзін,*
*І таму прыдбаць каняку*
*Марыў кожны селянін.*
*Нэндза мучыла й Данілу.*
*Хоць, як кажуць, без штаноў,*
*Але ўсё ж купіў кабылу*
*У заезджых цыганоў.*
*Праўда, ёй гадкоў нямала*
*(Не гадзіцца пад сядло),*
*Ды арала і цягала,*
*Колькі моцы ў ёй было.*
*...Неўпрыкмет зіма настане,*
*Забярэ сабе правы.*
*Са стажкоў гурмой сяляне*
*Сена звозілі ў хлявы.*
*Хто трымае дзве каровы,*
*Хто гадуе тры казы.*
*І шчыруе люд вясковы —*
*Цугам цягнуцца вазы.*
*І Даніла, несумненна,*
*Ад усіх адстаць не мог.*
*Так рублём прыціснуў сена,*
*Што на возе ледзь не стог.*
*Усяго адна дарога*
*З сенажаці да сяла,*
*І яна віхляла многа,*
*Не наўпрост туды вяла.*
*А абапал ці балоты,*
*Ці папросту бруд і гразь.*
*Як застраць няма ахвоты —*
*За дарогу не вылазь.*
*З-за таго, што ёсць кабыла,*
*У Данілы пыхі шмат.*
*Ён на фурманаў-"дэбілаў"*
*Кінуў грэблівы пагляд:*
*— Я магу адзіным махам*
*Шлях адолець, мужыкі,*
*І сваім паеду шляхам,*
*Гэта значыць, напраскі!*
*Не марудзіў ні хвіліны.*
*Каб усім было відно,*
*Крута з'ехаў з каляіны,*
*На кабылу гаркнуў:*
*— Но!*
*Катастрофа для кабылы,*
*Шмат наперадзе пакут:*
*Ёй жа рваць патрэбна жылы,*
*Шыю церці аб хамут.*
*Зразумець яна не можа,*
*Для чаго — ну проста жах! —*
*Трэба лезці ў бездарожжа,*
*Калі ёсць харошы шлях.*
*Ад патуг стагнала кося*
*І лічыла, што хана...*
*А Данілу падалося,*
*Што лянуецца яна.*
*Тут жа ў ход пайшла дубіна*
*У дадатак да пагроз:*
*— Здам на ліверку, скаціна!*
*Трасцу ўбачыш больш авёс!*
*Для кабылы свет не мілы:*
*Па калдобах, па гразі*
*Проста йсці не мае сілы,*
*А яшчэ і воз вязі.*
*І яна наогул стала:*
*Упірайся ты ці не,*
*Розніцы, прынамсі, мала —*
*Б'е дубіна па спіне.*
*Жыць бы фурману з бядою,*
*І кабыле быў бы швах,*
*Каб сяляне грамадою*
*Не ўсцягнулі воз на шлях...*
*Вёска потым гаманіла*
*(І смяялася да слёз),*
*Што без фурмана кабыла*
*Часам лепей цягне воз.*

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# Аферыст

Андрэй Казіміравіч нясмела пераступіў парог і стаў у дзвярах.

— Андрэйка, праходзь! — ветліва запрасіла Вікторыя Захараўна. — Распранайся, скідай чаравікі і абувай тапкі. З сённяшняга дня гэта ўжо і твой дом, так што не саромейся.

Яны абое аўдавелі даўно і, памучыўшыся ў адзіноце, вырашылі на схіле гадоў сысціся.

— Будуць пра нас людзі гаварыць усякае, вядома ж, гарадок невялікі, усе на віду, — пасля вячэры сказала гаспадыня.

— Ну, і няхай гавораць, каму якая справа. Мы ж нікому нічога дрэннага не робім... Я вось адзін на свеце жыву, а ў цябе дзве дачкі ёсць, а якая ад іх дапамога?

— Праўду кажаш, Андрэйка, ніякай. А ўдваіх нам будзе лягчэй.

Ішлі дні, а яны не маглі нарадавацца, што ўжо не адзінокія, што ёсць з кім пагаварыць, ёсць каму паплакацца, калі хвароба прыцісне так, што і не ўстаць з ложка.

— Віцця, я вось што думаю... Трэба мне сваю кватэру прадаць, бо, як часам пamру, то яе дзяржава забярэ, а так хоць грошы ў нас будуць. Тваім дочкам таксама дамо...

— А потым каяцца не будзеш? Раз так, мо давай распішамся, і я цябе прапішу ў сваю кватэру.

— Не трэба ні таго роспісу, ні прапіскі. Нам жа за 70, на тым свеце хутка прапішамся.

У гарадку шмат хто прадаваў дамы і кватэры, а купляць дык не вельмі спяшаліся. Але Андрэй Казіміравіч за цаной не гнаўся, і таму сваю двухпакаёўку збыў хутка. Грошы яны падзялілі на тры часткі: частку сабе, а дзве другія — Алесі і Тані. Дочкі Вікторыі Захараўны Вільчыцкай не замарудзілі прыехаць на дзяльбу. Забралі долары і ў той жа дзень адбылі ў Мінск, дзе кожная мела сям'ю і кватэру.

— Добры ты, Андрэйка! — з удзячнасцю глянуўшы на мужа, сказала Захараўна. — Зусім не скупы.

— Чаго мне скупіцца, калі жыву ў цябе, як у Бога за пазухай: і накормлены, і ў чысціні. Што старому яшчэ трэба? На той свет усё роўна не панясу. А так пры табе спакойна век дажыву.

Аднак яго прароцтвы не збыліся. Аднойчы восеньскай раніцай, калі хмурнае неба амаль што ляжала на дахах дамоў, працавітая і спагадлівая Захараўна не ўстала ўпраўляцца па гаспадарцы. Калі Андрэй Казіміравіч прыйшоў яе будзіць, нябога была ўжо халодная. Ён у страху і роспачы стаў ля ложка на калені і заплакаў, нібы жанчына. Стаяў так доўга, зусім забыўшыся, што трэба збіраць нябожчыцу ў апошні шлях, трэба пазваніць дочкам, каб тэрмінова прыехалі.

Памыць і апрануць Захараўну прыйшлі суседкі. Яны ж паведамілі і нешматлікай радні нябожчыцы. Пад самы вечар, калі Захараўна ўжо ляжала ў труне, прыехалі з Мінска дочкі. Гэта былі зусім не тыя ветлівыя маладыя кабеты, што не так даўно прыязджалі па долары.

— Дзе маміны грошы?! — спыталі навыперадкі ў прыбітага горам Казіміравіча. — Аддавай, дзед, дабром, калі не хочаш скандалу.

Згорблены стары чалавек выглядаў так, што хоць самога ў труну кладзі. Ён пайшоў у камору і праз некаторы час прынёс закручаныя ў сінюю хусцінку долары.

— Гэта наша з Віцяй частка ад продажу маёй кватэры...

Таня ўзяла пакуначак і хацела пакласці сабе ў сумачку.

— Куды?! — вылупіла вочы Алеся. — А мне?! Давай пералічым і падзелім.

Яны селі на ложак і прыняліся ўважліва лічыць купюры, зусім не зважаючы, што на іх з дакорам глядзяць суседкі.

— Ну, усё, Казіміравіч, тут жыцця не будзе, — сказала Адэля Манікайла.

— А няўжо ж! Трэба было ім распісацца ды прапісаць яго ў гэтай кватэры, — падтрымала яе Вера Рабчонак.

— Не думалі, што так атрымаецца, што Захараўна першая памрэ. Яна ж на сем гадоў маладзейшая за яго...

— Ой, галубка, смерць у зубы не глядзіць...

Калі памінальная вячэра закончылася і людзі разышліся, Таня з Алесяй сказалі прыбітаму горам Казіміравічу, каб той вымятаўся з кватэры, бо яны, маўляў, як стануць па законе спадкаемцамі, то адразу будуць яе прадаваць, а пакуль пусцяць кватарантаў.

— А куды ж мне ісці? — разгубіўся ён.

— А куды хочаш! Нам да гэтага якая справа? — крыва ўсміхнулася Таня. — Забірай свае манаткі зараз жа, бо мы хутка дзверы запром і паедзем. Аферыст ты! Думаў у нашай кватэры жыць?

Андрэй Казіміравіч паклаў у дарожную сумку самую неабходную вопратку і выйшаў у вечаровую цемру. За слязамі не бачыў дарогі, ад роспачы перахоплівала дыханне. Пастаяў крыху ў задуменні і паволі пабрыў на тую вуліцу, дзе ў сваім доме жыла сястра Зоя. Доўга ціснуў на кнопачку званка, аж пакуль на парозе з'явілася гаспадыня.

— Ну, і чаго табе тут трэба?! — няветліва сустрэла яна брата.

— Зоечка, пусці да сябе пажыць, — узмаліўся Казіміравіч. — Віцціны дочкі мяне з хаты выгналі.

— А што ты думаў, яны цябе даглядаць будуць?! Прыйшоў прасіць: "Зоечка, пусці..." А як сваю кватэру прадаў, то чаму ж ты тады пра мяне не ўспомніў? Казалі людзі, што ўсе грошы аддаў тым выдрам. То цяпер і жыві як хочаш! — сястра з грукатам зачыніла дзверы перад самым яго носам.

Назаўтра раніцай вясковыя дзеці з Панямоння ішлі ў школу праз калгасны сад і ўбачылі, што дзед Андрэй Кавалёў скінуў шапку і, схіліўшы набок галаву, нібы штосьці разглядвае на грушы. Толькі ногі яго неяк дзіўна падагнутыя ў каленях.

— Хлопцы, дык ён жа павесіўся! — раптам усклікнуў Васіль Хмурчык, які вучыўся ў адзінаццатым класе і ўжо аднойчы бачыў вісельніка.

Хавалі Казіміравіча суседзі, а дочкі Захараўны на пахаванне не прыехалі, хоць ім і пазванілі. Толькі праз паўгода, калі трэба было ім станавіцца спадкаемцамі, нехта ноччу выбіў у кватэры дзверы і павыбіваў вокны. Кабеты заявілі ў міліцыю, але знайсці зламыснікаў не ўдалося. Усе суседзі дружна казалі, што яны спалі і нічога не чулі ды не бачылі. А больш у каго спытаць?..

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

ФОТАФАКТ




***Незвычайную сацыяльную акцыю правяла ДАІ на трасе Мінск—Гродна. У Лідскім раёне ля шашы з'явіўся незвычайны манекен — смерць з касой. Акцыя мела на мэце заклікаць вадзіцеляў да абмежавання хуткасці.***

Народная Воля http://www.nv-online.info 11 ЛЮТАГА 2014 г.

ІНІЦЫЯТЫВА

## Помнік Станіславу Манюшку будзе стаяць на плошчы Свабоды

*Пра гэта гаворыцца ў адказе Мінгарвыканкама на зварот мінчан з просьбай аб усталяванні помніка кампазітару. У ліпені мінулага года па ініцыятыве Алеся Белага і Дзяніса Салаша пачаўся збор подпісаў пад зваротам да старшыні Мінгарвыканкама Мікалая Ладуцькі з просьбай усталяваць помнік Манюшку.*

Ініцыятары адзначалі, што для беларускай культуры асаблівае значэнне мае супрацоўніцтва Станіслава Манюшкі з Вінцэнтам Дунінім-Марцінкевічам, плёнам якога сталі чатыры камічныя оперы, уключаючы знакамітую "Ідылію". На думку аўтараў петыцыі, 200-годдзе Манюшкі, якое будзе адзначацца ў 2019 годзе, павінна суправаджацца юбілейнымі мерапрыемствамі, у тым ліку устаноўкай годнага помніка, найлепшым месцам для якога, на думку большасці экспертаў, з'яўляецца сквер на плошчы Свабоды ў Мінску, тварам да гасцініцы "Еўропа". У сярэдзіне XIX стагоддзя на месцы гатэля знаходзіўся Мінскі гарадскі тэатр, дзе і адбылася прэм'ера "Ідыліі".

У снежні мінулага года петыцыя сабрала 4200 электронных подпісаў, якія разам са 120 рэальнымі подпісамі былі перададзены ў Мінгарвыканкам. У адказе начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі гарвыканкама Сяргей Хільман паведаміў, што Мінгарвыканкам "прынцыпова падтрымлівае дадзеную прапанову". Праект рэканструкцыі і рэстаўрацыі забудовы гістарычнага цэнтра Мінска прадугледжвае ўстаноўку помніка Манюшку на плошчы Свабоды.

Паведамляецца таксама, што Мінскі гарадскі мастацка-экспертны савет па манументальным і манументальна-дэкаратыўным мастацтве ўхваліў мадэль помніка, прапанаваную скульптарам Сяргеем Гумілеўскім. Праца па стварэнні помніка ажыццяўляецца КУП "Мінская спадчына".

*"Як і марыла грамадскасць, помнік усталююць у самым прыгожым месцы беларускай сталіцы — на плошчы Свабоды, каля гарадской ратушы. І такі выбар не выпадковы, бо менавіта з гэтым месцам найбольш цесна звязана біяграфія Манюшкі",* — пракаментаваў БелаПАН рашэнне мінскіх улад Дзяніс Салаш.

ДЫПКУР'ЕР

## Экс-пасол Браян Бэнет узначаліў Англа-Беларускае таварыства

*Шматгадовага кіраўніка Англа-Беларускага таварыства Джэймса Дынглі змяніў былы пасол Вялікабрытаніі ў Мінску Браян Бэнет.*

Чарговы сход Англа-Беларускага таварыства (АБТ) прайшоў у Лондане, у будынку беларускай каталіцкай місіі (Marian House — Дом Марыянаў).

Грамадская арганізацыя, створаная ў 1954 годзе, аб'ядноўвае жыхароў Вялікай Брытаніі, якія цікавяцца Беларуссю, жадаюць з ёй супрацоўнічаць, папулярызаваць беларускую культуру ў Злучаным Каралеўстве.

Бэнет быў паслом у Беларусі ў 2003—2007 гадах. Сябры таварыства спадзяюцца, што ягоны дыпламатычны досвед дапаможа больш актыўна набліжаць Беларусь да брытанцаў.

*"Я спадзяюся, што люблю Беларусь не менш за папярэдняга старшыню спадара Дынглі. І жадаю падбадзёрваць Англа-Беларускае таварыства рухацца наперад",* — цытуе Радыё Свабода словы спадара Бэнета пасля абрання.

У бліжэйшых планах АБТ — адзначэнне гадавіны паўстання Каліноўскага і канцэрт дударскай музыкі. З беларускімі дударамі на адным канцэрце жадаюць звесці знакамітых на ўвесь свет шатландскіх.

ЧУЛІ?

## Палац у Гродзенскай вобласці прадаюць за 321 тысячу долараў

*Палацавы комплекс князёў Святаполк-Чацвярцінскіх у пасёлку Жалудок можа выратаваць ад разбурэння толькі багаты інвестар. Помнік архітэктуры паспрабуюць прадаць на аўкцыёне, прызначаным на 27 лютага. Пачатковы кошт лота — 3.105.614.330 рублёў, што эквівалентна 321.000 долараў.*

Палац у Жалудку пабудаваны ў 1908 годзе, над стварэннем яго аблічча працаваў вядомы італьянскі архітэктар Марконі. Будынак уяўляе сабой двухпавярховы асабняк у стылі неабарока з элементамі ракако. Побач з ім знаходзяцца флігель і некалькі гаспадарчых пабудоў, а таксама рэшткі парку.

Комплекс перажыў рэвалюцыю, дзве вайны, але цяпер знаходзіцца ў жаласным стане.

*— Гэта ўжо другая спроба прадаць комплекс на аўкцыёне, першы раз таргі павінны былі адбыцца ў снежні мінулага года, але заяўнікаў не знайшлося,* — распавялі realt.onliner.by на рэспубліканскім дачным унітарным прадпрыемстве "Конус", на балансе якога лічыцца палацавы комплекс. — *Новы ўласнік павінен будзе выканаць ахоўныя абавязацельствы і ўцягнуць будынак у гаспадарчы абарот на працягу трох гадоў з моманту заключэння дагавора куплі-продажу.*

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў АСОБАХ

# Генадзь Грушавы: люстэрка жыцця

Ніколі не забыць той сустрэчы, што здарылася ў чэрвені 1986 года на галоўнай вуліцы Гомеля. Каля шасці гадзін раніцы, калі горад толькі прачынаўся, я ўбачыў, як па восі праспекта Леніна ў бок чыгуначнага вакзала рухаецца вялізная калона аўтобусаў з уключанымі фарамі. Сыноў і дачок палешукоў, пацярпелых ад Чарнобыльскай навалы, везлі на аздараўленне. У вачах дагала астрыжаных дзяцей, якія моўчкі глядзелі на мяне праз шыбы ЛАЗаў, чыталіся трывожныя пытанні: "Чаму? Куды? Што з намі будзе?"

Сярод тых беларусаў, хто дапамог нашым дзецям адказаць на гэтыя і іншыя няпростыя пытанні, быў Генадзь Грушавы. Прычым ён рабіў гэта нават тады, калі іншыя казалі "не", бо верыў у лепшае і заўсёды ўсяляў гэтую веру ў другіх. Падчас нядаўняга развітання з Генадзем Грушавым мінчанка Людміла Бачкарова стала на калені перад труною чалавека, які 23 гады таму выцягнуў з таго свету паўтарагадовую Алену — дачку спадарыні Людмілы. Для мяне гэтая жанчына атаясамілася з вобразам беларускай маці, якая выказала шчырую падзяку вялікаму гуманісту, абаронцу права самых безабаронных грамадзян Беларусі — яе дзетак — на жыццё пасля Чарнобыля.

Вобраз гэтай удзячнай беларускай маці дапаўняюць і лісты з асабістага архіва Генадзя Грушавога.

...Венера Пятроўна ў 12 год стала дачкою "ворага народа", тры гады была остарбайтарам у Германіі, за "здраду Радзіме" была прысуджана да расстрэлу, замененага 25-гадовым пакараннем у ГУЛАГу. Адсядзела за кратамі сем гадоў, а потым насіла кляймо "палітычна небяспечнага элемента". У сваім лісце ад 22 лістапада 1992 года гэтая змучаная цяжкім лёсам і радыяцыяй жанчына дзякуе Генадзю Уладзіміравічу і яго жонцы Ірыне Львоўне за клопат пра яе і ўнукаў: *"У Нямеччыне я забыла пра свае болькі і адчувала сябе юнай. Думаю, што душэўны ўздым і правільнае вітамінізаванае харчаванне зрабілі сваё жыватворнае ўздзеянне. І, безумоўна, чыстае гаючае паветра вёскі сярод палёў і лясоў. Аказваецца, што і ў 68 год можна адчуваць сябе бадзёраю і маладою. Унукі мае цешыліся ўсім, чаго не маюць дома: выдатным харчаваннем, здаровым паветрам, разнастайнасцю садавіны і сокаў, цудоўнымі прысмакамі, штодзённымі задумамі, забавамі і купаннем у басейне, цікавымі знаёмствамі, запрашэннямі ў госці і markнымі падарункамі. Цэлы месяц жыццё маіх унукаў было насычаным, радасным і шчаслівым..."*.

А вясковая сям'я з Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці ў сваім лісце ад 28 красавіка 1999 года выказала Генадзю Грушавому *"глыбокую падзяку за Вашу чалавечую дабрыню, за Вашу шчырасць, за Ваша адкрытае сэрца, за тое, што Вы ёсць і прыносіце людзям радасць і падтрымку"*. Аўтар ліста напісаў: *"Я і дзеці проста не ведаем, як Вам аддзякаваць. Вялікі дзякуй за кароўку, за падарункі, за ўсё тое, што робіце для маёй сям'і. У дзетак з'явіўся праменьчык, што ёсць добрыя людзі і што яны не адны. Кароўка вельмі добрая, ласкавая, яе дзеці клічуць Зорка і кормяць. Калі прыедзеце, пачастуем малаком. Вы, Генадзь Уладзіміравіч, вельмі добры чалавек і спачуваеце людзям. Мае дзеткі нехрышчоныя, і напрыканцы верасня я хачу іх ахрысціць. Дзеткі хочуць, каб Вы былі іх хросным бацькам..."*

Спадзяюся, што ўспаміны Генадзя Грушавога, ілюстраваныя здымкамі з ягонымі подпісамі, дапамогуць чытачам "Народнай Волі" годна бараніць тыя ідэалы дабра, вольнай і незалежнай Бацькаўшчыны, за якія мужна змагаўся наш высакародны зямляк.

## «І тое, што Чарнобыль мяне цяпер дабівае, не азначае, што я пацярпеў паразу...»

### Мінск паваенны

"Я нарадзіўся ў Мінску 24 ліпеня 1950 года. Той, хто памятае тагачасны горад, мяне зразумее, бо на сто працэнтаў сталіца была адлюстраваннем нашага пасляваеннага жыцця. А былая вайна адчувалася ва ўсім: у пастаянная галадусе, у зношаных вопратцы і абутку, у перапоўненых камуналках, аўтобусах і трамваях, у штодзённых крадзяжах і крывавых бойках, у шматлікіх бяздомных сіротах, інвалідах і жабраках на вуліцы...

Пасля майго нараджэння спачатку мы ўчацвярых жылі ў невялікім пакойчыку ў кватэры бацькавага начальніка каля Парку Чалюскінцаў, а потым атрымалі кватэру ў доме па вуліцы імя Валерыяна Куйбышава каля будынка штаба Чырвонасцяжнай Беларускай ваеннай акругі (ЧБВА). Наш дом і шмат дамоў вакол былі пабудаваны ваеннапалоннымі. Нашы паводзіны адпавядалі ўзроўню і зместу жыцця. Помню, мне было гады чатыры, я яшчэ не хадзіў у школу, дзе было раздзельнае навучанне. І калі мая старэйшая сястра Галя, якая ўжо, на жаль, сышла з жыцця, пайшла ў 21-ю школу, я таксама пайшоў з ёй запісвацца ў першы клас, бо вельмі хацеў вучыцца. І тады мяне нават сфатаграфавалі — аднаго маленькага хлопчыка сярод дзяўчынак-школьніц.

### Гэта мой бычок!

Усе хлапчукі дзяліліся на дваравыя шайкі. І ў нашым двары была такая кампанія, на чале якой стаяў 12-гадовы хлапец. І вось, калі мне было гадоў шэсць, мы выходзілі на "промысел": ехалі аўтобусам да Мотавелазавода на Калгасны рынак, дзе, згодна з размяркаванымі абавязкамі, старэйшыя хлопцы чапляліся да гандляра, а меншыя хапалі з прылаўкаў і кашоў тую гародніну і садавіну, пра якую зараней дамовіліся. Калі ўзнімаўся гвалт, мы разбягаліся, а потым сыходзіліся і дзялілі накрадзенае. Акрамя таго, мы, малыя, павінны былі адсочваць тых людзей, хто ідзе па вуліцы і паліць, каб не прапусціць ні адзін кінуты бычок. І за гэтымі бычкамі прыходзілася часам ісці некалькі кіламетраў. Але якая ж потым была ўзнагарода — мы збіраліся на старых закінутых яўрэйскіх могілках у раёне вуліцы Калектарнай, рабілі самакруткі і з задавальненнем палілі іх, расцягнуўшыся на нагрэтых сонцам каменных надмагіллях... І калі маці аднойчы знайшла бычок у кішэні майго паліто, яна, як вельмі карэктны чалавек, запыталася ў мяне: "Гена, хто гэта паклаў табе бычок у кішэню?" На што я важна адказаў: "Як хто? Гэта мой бычок!"

Як усе хлопцы пасляваеннай пары, гулялі ў азартныя гульні, бегалі навыперадкі, біліся, а ў бацькоў не было ні сіл, ні часу, каб займацца нашым выхаваннем...

### Гісторыя роду

Мае продкі па бацьку — са старадаўняга шляхецкага роду герба "Любіч", вядомага на беларускім Палессі з XII стагоддзя. Напрыканцы XV — на пачатку XVI стагоддзя яны з усходняй Берасцейшчыны прыйшлі ў Запарожскую Сеч. Дарэчы ў Нікалаеўскай вобласці Украіны да гэтай пары жывуць каля дзвюх сотняў Грушавых — былых запарожскіх казакоў. Падчас Сталыпінскай аграрнай рэформы мой прадзед Максім Грушавы разам з усім хутарам перасяліўся з Нікалаеўскай губерні ў кіргізскае Сямірэчча, дзе пачалі асвойваць прыдатныя для гаспадарання незаселеныя даліны ў перадгор'ях Цянь-Шаня на мяжы з Кітаем. Яны жылі так далёка ад людзей (бліжэйшы горад — Такмак — знаходзіўся прыкладна за 200 кіламетраў ад іхняй вёскі), што іх ніколі ніхто не чапаў — ні басмачы, ні чырвоныя камісары. У дзеда Ерамея там была вялікая гаспадарка з сотнямі авечак і бахчой. Але іх заможнае вольнае жыццё скончылася, калі на пачатку 1930-х гадоў бальшавікі пачалі ствараць у вёсцы калгас. А паколькі былыя казакі не захацелі жыць у калгасе, людзей пачалі высяляць у Сібір, а некаторых забілі.

І вяскоўцы пайшлі сваімі дарогамі: хтосьці праз мяжу, некаторыя ў басмачы, а вялікая сям'я дзеда, у якой было дзевяць дзяцей, узяўшы з сабой толькі самае неабходнае, кінуўшы ўсё нажытае, у тым ліку коней і жывёлу, пехатой рушыла на Такмак. І праз некалькі дзён ужо нішто не нагадвала пра іх былую заможнасць. Дзякуючы таму, што ў ауле каля Такмака ўсе мужчыны старэй за 12 год наняліся падзённымі рабочымі на бахчу, мой бацька і яго браты атрымалі магчымасць вучыцца. Такім чынам дзед выратаваў сям'ю, якая змяніла свой сацыяльны статус: з заможных вольных сялян — на вясковых беднякоў-пралетарыяў.

### Бацькавы медаль

Менавіта дзякуючы гэтаму бацька ў 1937 годзе паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Фрунзенскага педагагічнага інстытута. Вучыўся добра, бо яго дыпломнай працай зацікавіліся навукоўцы, але спадзяванні на навукова-даследчую дзейнасць перакрэсліла вайна.

Майго 22-гадовага бацьку прызвалі ў легендарную 316-ю стралковую дывізію генерала Івана Панфілава, якая летам 1941 года фарміравалася ў Кіргізіі і Казахстане. Напрыканцы кастрычніка Уладзімір Грушавы прыняў свой першы бой з фашыстамі пад Масквой, падбіў варожы танк і атрымаў вышэйшую салдацкую ўзнагароду — медаль "За адвагу".

Бацька займаўся лёгкаатлетычным чатырохбор'ем (бег, кіданне гранаты, скачкі ў даўжыню і вышыню). І паколькі бацька быў неблагім спартсменам і нават чэмпіёнам падчас студэнцтва, яму і іншым самым спрытным стралкам дывізіі, якія па адным акапаліся прыкладна за 200 метраў ад перадавой, даручылі закідваць нямецкія танкі бутэлькамі з "кактэйлем Молатава".

Танкі ворага ішлі трыма калонамі, прычым сярэдняя рухалася якраз на бацькаў акопчык. Тата дачакаўся, пакуль галаўны танк калоны падышоў дзесьці метраў на 50, і кінуў першую бутэльку. Але пацэліў толькі з трэцяй. Варожы танк праехаў яшчэ метраў 20 і толькі тады загарэўся і спыніўся. За ім стала і ўся калона. Экіпаж пакінуў палаючую машыну, а астатнія варожыя танкі далі задні ход, бо з-за восеньскага бездарожжа ім не было куды падзецца...

### Маці-чырвонаармеец

Пасля двух даволі сур'ёзных раненняў бацьку паслалі на камандзірскія курсы, у 1942 годзе ён ужо быў лейтэнантам, а скончыў вайну на IV Беларускім фронце ў Кёнігсбергу маёрам, камандзірам стралковага палка. Пасля перамогі больш за паўгода бацька быў камендантам старажытнага ўсходнепрускага горада Інстэрбург (цяпер — Чарняхоўск Калінінградскай вобласці Расіі), дзе і пазнаёміўся з маёй будучай маці, тады 20-гадовай Зінаідай Рабавай. Сама яна родам з Ноўгарада, паходзіла з вядомай з XII стагоддзя сям'і заможных месцічаў. Перад тым як нацысты ўвайшлі ў гэты старажытны рускі горад, галава сям'і Мікалай Рабаў, які працаваў начальнікам гарадской тэлефоннай станцыі, адвёз родных да сваякоў — у вёску на беразе ракі Волхаў, што якраз і стала лініяй фронту. Пад акупацыяй, пастаяннымі артабстрэламі і бамбёжкамі сям'я пражыла ў зямлянцы на беразе ракі аж да самага 1944 года.

Падчас адступлення акупанты пачалі вывозіць людзей на Захад, на работы. Так маці апынулася спачатку ў Латвіі, а потым ва Усходняй Прусіі, дзе цяжка працавала ў маёнтку мясцовага гросбаўэра і перахварэла малярыяй.

Ёй удалося збегчы ад немцаў, якія вывозілі остарбайтараў на захад, і схавацца ад праследу. Потым ёй зноў давялося хавацца ўжо ад вызваліцеляў, якія гвалцілі ўсіх жанчын і дзяўчат без разбору. Тут яна і сустрэлася з бацькам, які выратаваў маці і забраў яе ў камендатуру з лагера прымусовых перасяленцаў, дзе многіх згвалтавалі, закатавалі і забілі.

Каб вызваліць маці ад пагрозы праверак і ГУЛАГа, бацька выдаў ёй чырвонаармейскую кніжку, яна апранула салдацкую форму і стала чырвонаармейцам-добраахвотнікам.

(Працяг на 8-й стар.)

ПЕРАД ПРЕМЬЕРОЙ

## Неэме КУНИНГАС: «Режиссеры оперы сейчас могут ограничиться одной табуреткой на сцене»

*Опера Верди "Риголетто" одна из тех 20 шедевров мировой классики, которые останутся в мировом театре навсегда. Опера очень популярна у зрителя, она почти всегда была в репертуаре нашего Большого, но в этом сезоне театр решил обновить спектакль, дать постановке свежую энергию и новую форму. Для этого в Беларусь был приглашен известный в Европе эстонский режиссер* ***Неэме КУНИНГАС****. Он работал главным режиссером в театре оперы "Эстония", поставил более ста оперных спектаклей, оперетт и мюзиклов. Н.Кунингас востребованный мастер, который регулярно сотрудничает с театрами России, Китая, Франции, Германии, Литвы, Финляндии, Швеции и Норвегии.*

*Премьера "Риголетто" в Большом театре оперы и балета состоится 1 и 2 марта. Дирижер-постановщик — заслуженный артист Украины Виктор Плоскина.*



**— Как вы устроились у нас в Минске, господин Кунингас?**

— Хорошо. Театр нашел мне квартиру, там я сам себе хозяин, сам себе готовлю. Когда я подолгу работаю за границей, не люблю жить в гостиницах, где невольно вынужден быть наблюдателем и участником социальной жизни. Мне там мало приватности.

**— Знаменитый дирижер Темирканов считает, что именно режиссеры теперь убивают оперу. Как вы решили "разделаться" с "Риголетто"?**

— Темирканов прав, он знает, о чем говорит, потому что сам тоже ставил спектакли, как мне известно. Об искусстве интерпретации в опере можно делать диссертацию. Но если совсем кратко, то, чтобы привлекать публику в оперные залы, режиссеры на каком-то этапе, а точнее в середине XX века, увлеклись экспериментаторством, доказывая, что "мы тоже не музей". Дело дошло до трюкачества, до пошлости и социального порно. До политики. Старые любимые произведения стали ставить в шокирующем ключе. И сейчас, кажется, в оперной режиссуре наступил эстетический тупик, моральный кризис. А у зрителя — ностальгия по историзму, зритель как раз хочет увидеть оперный спектакль в эпохе, в костюмах. Чтобы была временная дистанция, чтобы сравнить, как менялся человек, и прийти к выводу, что не очень-то и менялся: те же мысли, эмоции, страсти. Так что новая постановка "Риголетто" останется в эпохе, которую задумали авторы. И такая наша трактовка — это теперь как раз "авангард". А вот "классика" теперь — это когда наоборот, когда голые... Или стоят на голове.

**— Расскажите, как вы стали оперным режиссером, где учились?**

— Я начал рано, учился в музыкальной школе, потом в консерватории, параллельно работал в хоре и в 23 уже имел диплом оперного и камерного певца и педагога по вокалу. Парень я был подвижный и с чувством сцены, и по совету старших — в частности, знаменитого русского режиссера Георгия Павловича Ансимова (он ставил в то время в театре "Эстония" одну из опер Прокофьева, а я был у него ассистентом, — так вот он сказал мне: "Поезжай в Москву, сделаем из тебя хорошего режиссера!") — я поступил в ГИТИС. Я до сих пор благодарен моим педагогам — Георгию Ансимову, Борису Покровскому, Евгению Акулову, русской школе, эстетике, которую впитал. И в Эстонии, и за рубежом, везде, где работал, мне это только помогало.

**— С белорусской труппой вы быстро установили контакт?**

— Очень быстро. Говорят, что режиссеры должны быть звери, деспоты. Я могу быть таким. И, в общем, когда был помоложе, исполнял роль непреклонного режиссера. Но быстро понял, что это ни к чему не ведет. Лучше быть с артистами в хороших отношениях, потому что спектакль — коллективное творчество. Артисты должны поверить мне, и тогда энергия, вера и естественность чувств пойдет через рампу, через оркестр к зрителям. А если этого нет, если артисты автоматы, роботы, куклы на сцене, тогда спектакль становится комиксом. Постановка "Риголетто" в Минске началась у меня с вокалистами с анализа главных персонажей — в форме диалога, естественно. Мы разговаривали, одновременно я изучал артистов... Мне важно узнать, как они мыслят, что они думают. В общем, работаем по Станиславскому — обсуждаем развитие образа. Впрочем, в "Риголетто" есть некоторые роли, в которых нет развития образа, например, Герцог, один из главных героев. Произошла трагедия, а он выходит сухим из воды. И ведь не притворяется... Каждый раз верит, что искренне влюблен, он художник по жизни.

**— И богатый человек, а власть и доступный секс неразделимы. Кто поет Риголетто?**

— Все певцы, исполняющие партию Риголетто, очень хороши: Петров, Трифонов, Громов. Они люди замечательной артистической породы, это личности, обладающие могучей творческой аурой. Все три и по голосу, и по пластике, по опыту и психофизике, даже по возрасту разные. Мало того, что они отличные певцы, на сцене они так выразительны как актеры, что иногда я даже говорю им: "Снимите лишние краски!" Когда я пришел первый раз на репетицию, я сказал, что, слава Богу, не знаю, ни какие звания, ни какие взаимоотношения у вас, солистов, между собой. Я немного преувеличил, конечно. Но мне, как режиссеру, важно, чтобы артисты полностью открылись в работе. На репетициях мы забываем все бытовые дела: и радости, и горести, и интриги. Артисты в этот момент — чистый, невинный материал.

**— Сколько стоит постановка нового оперного спектакля?**

— Вы можете так спросить, но ответить на этот вопрос трудно. Режиссеры сейчас, как я уже говорил, могут ограничиться одной табуреткой на сцене... Или же дайте миллион, сделаем, как на Бродвее. Какой есть бюджет, такова и стоимость спектакля. Впрочем, бюджетом постановщики часто недовольны. Но всегда находят художественное решение в его рамках. Это и есть творчество. Один раз в жизни я был в такой ситуации, когда мне сказали: делай что угодно, на любую сумму. Один раз в жизни работал без лимита! И вы знаете, эта свобода вдруг легла на плечи такой непомерной ответственностью, что даже помешала творчеству. Определенные финансовые рамки, оказывается, нужны, потому что при этом лучше решаются творческие задачи.

**— Интересно, а ваш гонорар режиссера-постановщика у нас не меньше, чем он был бы на Западе?**

— Деликатная тема. Гонорар — это профессиональное достоинство художника. В Эстонии есть союз режиссеров, есть договоры, и я не могу быть штрейкбрехером перед коллегами и опустить планку гонорара ниже определенного уровня. Поэтому мой белорусский гонорар — это солидный европейский уровень режиссера моего ранга.

**— Я хочу задать вопрос об Эстонской национальной опере. Как содержать такой дорогой театр, ведь в столице живет меньше полумиллиона человек? Заполняется ли зал?**

— У нас очень хорошая посещаемость. Почти как у вас — 96 процентов: правда, зал не очень большой, всего 700 мест. Тем не менее в театре полный аншлаг, так как на этой же сцене проходят и филармонические концерты, и, естественно, балет, а также оперетта, иногда мюзикл. В городе много туристов, а поскольку планирование в театре идет на два сезона вперед, то иностранцы часто включают посещение театра в программу путешествия. Здание, в котором располагается Эстонская национальная опера, в прошлом году отмечало столетие. В начале XX века в Таллинне были русский и немецкий театры, а эстонского театра не было. И люди стали собирать деньги. У них, правда, была mania grandiosa — они хотели, чтобы новое здание было больше, чем существующие. Сейчас театр "Эстония" — доминанта в центре города. Во время войны здание бомбили, оно сгорело. Восстановили театр уже в "сталинском ампире". А в оригинале это был арт-деко. В театре есть постоянная оперная труппа, 20 солистов. Мы гордимся, что у нас ансамблевый театр. У нас нет системы примадонн, нет иерархии: каждый солист может заменить на сцене хориста. Все равны, как в муравейнике. Или как в швейцарских часах — главное, чтобы механизм показывал правильное время.

**Елена МОЛОЧКО.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## У судзе над Віктарам Паліпцом — тайм-аўт

*У Магілёўскім абласным судзе пасля трохмесячнага разгляду абвешчаны перапынак на няпэўны тэрмін у пасяджэннях па крымінальнай справе былога старшыні Гомельскага гарвыканкама* ***Віктара Піліпца.***

4 лістапада 2013 года Магілёўскі аблсуд пачаў разгляд крымінальнай справы, распачатай у дачыненні да службовых асоб Гомельскага гарвыканкама. Паводле даных Следчага камітэта, абвінавачаныя ў верасні—кастрычніку 2011 года незаконна размеркавалі паміж сабой, сваімі сваякамі, блізкімі і знаёмымі кватэры ў шматкватэрных жылых дамах, прынятых у эксплуатацыю ў студзені—красавіку 2011 года. Частка жылых памяшканняў была афармлена на падстаўных асоб.

На лаве падсудных акрамя Піліпца — дырэктар упраўлення капітальнага будаўніцтва Гомеля **Ігар Адарчанка**, яго намеснік па эканоміцы і фінансах **Валерый Барысевіч**, начальнік жыллёва-інвестыцыйнага аддзела **Антаніна Зелянок** і начальнік планава-дагаворнага аддзела **Ала Нізкоўская**. Піліпец і Нізкоўская ўтрымліваюцца пад вартай у Магілёўскім СІЗА.

Як паведаміла сакратар суда **Жанна Караткевіч**, перапынак у судовым разглядзе справы быў абвешчаны па хадайніцтве боку абвінавачання.

Паводле яе слоў, падсудныя Піліпец і Нізкоўская па-ранейшаму знаходзяцца пад вартай. Сакратар адзначыла, што, магчыма, пры аднаўленні разгляду справы спатрэбіцца дадатковы допыт сведак.

Яна адмовілася паведаміць прычыну, па якой дзяржаўны абвінаваўца **Дзяніс Кічыгін** замаўляў аб перапынку ў судовых пасяджэннях.

Дзяржабвінаваўца ў сваю чаргу таксама адмовіўся пракаментаваць БелаПАН матывы, якія прымусілі яго прасіць аб перапынку. Пры гэтым ён пацвердзіў, што гэтае хадайніцтва зыходзіла ад яго.

Раней Дзяніс Кічыгін паведамляў, што па справе праходзяць каля 60 сведак.

НОРАВЫ

## Мужчынская прастытуцыя ў Беларусі набірае абароты

*Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі канстатуе рост колькасці выяўленых фактаў заняцця мужчынскай прастытуцыяй.*

*"Атрымлівае развіццё пастаноўка на ўлік і прыцягненне да адказнасці мужчын за заняцце прастытуцыяй. У цяперашні час на ўліку стаіць 45 чалавек",* — пра гэта заяўляюць супрацоўнікі ўпраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі МУС.

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў АСОБАХ

# Генадзь Грушавы: люстэрка жыцця

*(Працяг. Пачатак на 7-й стар.)*

## Сямейныя ўрокі

Вось пры такіх няпростых абставінах і ўзнікла наша сям'я.

У 1946 годзе нарадзілася мая старэйшая сястра Галя, а праз чатыры гады — і я. Сёння бацькі і сястры ўжо няма з намі, а маці пайшоў 90-ы год. Тату накіравалі на вучобу ў Маскву, у Ваенную акадэмію імя Міхаіла Фрунзэ, пасля заканчэння якой палкоўнік Уладзімір Грушавы служыў у штабе ЧБВА. Прыярытэты вальнадумства, справядлівасці і ўнутранай свабоды, іх першыя досведы я пачарпнуў ў сям'і, чаго вуліца даць не можа. Памятаю, як у гады хрушчоўскай адлігі я пачаў слухаць па радыё замежныя галасы і бацька спытаў, навошта мне гэта. І калі я адказаў, што, каб ведаць праўду, трэба слухаць розных людзей, ён згадзіўся са мной і нават заўвагі не зрабіў.

Вельмі паўплывала на мяне і маці сваёй актыўнай грамадскай працай, бо яна кіравала жаночым саветам штаба акругі і дамавым камітэтам, а таксама адстойвала справядлівасць у нашай 50-й школе з фізіка-матэматычным ухілам, як сябра яе бацькоўскага камітэта. Я добра памятаю, як маці выратавала ад выключэння са школы вучняў старэйшых класаў, якія выдатна вучыліся і прыстойна сябе паводзілі, але не хацелі жыць па ўказцы, пад прымусам і адмовіліся выконваць несправядлівы загад аўтарытарнага дырэктара. Нягледзячы на яго ўпартасць і абразы, маці білася за гэтых дзяцей, як за сваіх, і дабілася, каб яны закончылі школу.

Першыя два класы маці, можна сказаць, вучылася разам са мной, але ўсе астатнія гады я грыз веды сам і быў круглым выдатнікам не толькі ў школе, але і ва ўніверсітэце. Аднак гэта не мая заслуга, а заслуга маці, бо менавіта ад яе я атрымаў першыя ўрокі ўнутранай дысцыпліны і адказнасці, а таксама матывацыі да вучобы.

## Першыя перамогі і паразы

Хаця мне было ў школе не вельмі ўтульна, бо дух аўтарытарызму прыгнятаў і мяне прыцягвала "камчатка", дзе сядзелі хлопцы не самых лепшых паводзін і поспехаў у вучобе, але цікавыя сваёй унутранай свабодай і рамантыкай вулічнага жыцця, чаго не было ў выдатнікаў на першых партах...

Я рана пачаў чытаць і чытаў вельмі шмат. А дваравое жыццё прывяло мяне ў спартыўныя секцыі. Калі хтосьці на вуліцы казаў, што адкрыўся басейн, мы збіваліся ў кучку і запісваліся плаваць, вучыліся воднаму пола і баскетболу, займаліся вольнай барацьбой і, урэшце, лёгкай атлетыкай, якая стала любімым заняткам. З сёмага класа я вучыўся ў Рэспубліканскай дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву па лёгкай атлетыцы, што знаходзілася каля Дзяржаўнага цырка, і ўваходзіў у зборную Беларусі па бегу на кароткія дыстанцыі і трайному скачку. Я зрабіў новы крок у адказнае самастойнае жыццё, ездзіў на зборы і спаборніцтвы, адчуў асалоду перамогі і горыч паразы, адказнасць за сябе, сваю каманду і краіну. І вучыўся выбудоўваць адносіны з іншымі людзьмі.

Памятаю, як 13-гадовым хлопцам мы ўдваіх з дзяўчынкай без дарослых паехалі цягнікам на рэгіянальныя спаборніцтвы па піянерскім шматбор'і (скачкі ў даўжыню і вышыню, бег на 60 метраў і кіданне мяча) у літоўскі Коўна, дзе я з ходу, пасля першых трох месяцаў трэніровак, заняў трэцяе месца сярод сваіх аднагодкаў з Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Колькі было радасці, унутранай задаволенасці і гордасці ад гэтага! А якія мяне перапаўнялі пачуцці, калі я трымаў сцяг нашай школы падчас цырымоніі яе ўзнагароджання ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга! Тым больш што наша школа стала першай ардэнаноснай у сталіцы.

## Мадэль крэкінгу нафты

У восьмым класе я проста закахаўся ў хімію. Мне было цікава, як з аднаго ўзнікае нешта іншае, і аднойчы, калі праводзіў вопыты, я ледзьве не спаліў кватэру. Але прыніжэнне, якое я зведаў ад настаўніцы па гэтым прадмеце, загубіла маю любоў. Пасля таго як я бліскуча перамог на школьнай і раённай алімпіядах па хіміі, давялося выступаць на гарадской алімпіядзе. Але тут, акрамя добрых ведаў, трэба было прадставіць мадэль нейкага хімічнага працэсу. І настаўнікі многіх школ дапамагалі сваім вучням зрабіць такія мадэлі. А паколькі мая настаўніца мяне не выносіла за маю самастойнасць і адмовілася дапамагаць, на фоне іншых работ даволі дзікавата выглядала мая мадэль крэкінгу нафты з дошак, бляшанак і іншых падручных матэрыялаў. Таму сваю мадэль я ціхенька паставіў у бок і прыкрыў кашуляй. Такога сораму я не адчуваў за ўсё жыццё. Паколькі я атрымаў вышэйшы бал і перамог у тэарэтычнай частцы праграмы, дык прайшоў на рэспубліканскія спаборніцтвы. Калі ж арганізатары алімпіяды папрасілі мяне паказаць мадэль, я сышоў без усялякіх тлумачэнняў. І на хіміі паставіў кропку. Але ў восьмым класе я атрымаў стос грамат за перамогі на алімпіядах па хіміі, фізіцы, матэматыцы, а таксама на спартоўных спаборніцтвах.

## Кропка на спорце

Пасля восьмага класа я цалкам сышоў у спорт. Мяне рэкамендавалі на І чэмпіянат Еўропы на лёгкай атлетыцы сярод юнакоў, які ў 1966 годзе адбыўся ў Парыжы. Аднак ад вялікіх нагрузак мяне пераследавалі цяжкія траўмы. Таму на Рэспубліканскай спартакіядзе па лёгкай атлетыцы я не змог пацвердзіць свае лепшыя вынікі мінулага года, хаця і заняў прызавыя месцы. Але ж быў упэўнены, што паеду ў Парыж, бо быў лідарам зборнай Беларусі і незаменным для каманды старцёрам у эстафеце 4х100 метраў: дзякуючы сваёй імгненнай рэакцыі я пасля старту адразу адрываўся ад сапернікаў на некалькі метраў. Аднак трэнер лічыў, што мяне трэба пaберагчы ад яшчэ больш сур'ёзных траўм. Таму ў Парыж мяне не ўзялі, каманда паехала без мяне. Я тады скончыў дзявяты клас, месяц перажываў ад прыніжэння, а калі прыйшла восень, паставіў кропку на спорце. Хоць трэнер і дырэкцыя школы два месяцы ціснулі на нашу сям'ю, каб прымусіць мяне вярнуцца, усё было безвынікова...Тым больш што ў дзявятым класе я ўжо цалкам "захварэў" іншым — філасофіяй.

## Нечаканасць і адкрыццё

Адбылося гэта на спаборніцтвах у Гомелі, калі нас пасялілі ў студэнцкім інтэрнаце. Аднойчы прылёг адпачыць на ложак, а пад ім валяецца нейкая кніжка. Без вокладкі і часткі лістоў. Толькі потым я дазнаўся, што гэта былі "Гісторыка-філасофскія ўводзіны да курсу "Дыялектычны і гістарычны матэрыялізм" вядомага савецкага філосафа, прафесара Аляксея Макарава. А тады я так зачытаўся гэтай кніжкай, што нават не прыйшоў на цырымонію ўзнагароджання. Філасофія была для мяне поўнай нечаканасцю і такім адкрыццём, што калі я прыехаў дадому, дык стаў шукаць адмысловую літаратуру і сабраў невялікую бібліятэку. У дзясятым класе я быў поўнасцю засяроджаны на філасофіі і марыў толькі пра яе, чытаў кніжкі антычных філосафаў, у бібліятэцы Дома ўрада пазнаёміўся з творамі Артура Шапенгаўэра і іншых заходніх мысляроў. Я адчуў філасофію ў яе рэальнай сутнасці і ўявіў сабе людзей, якія канкрэтна разважалі і жылі ў той ці іншай гістарычнай сітуацыі.

## Пляц, дзе сябе сцвярджаеш, трэба бараніць да апошняга

Менавіта ў 1966 годзе, калі да мяне прыйшла гэтая "хвароба", на гістарычным факультэце БДУ адкрылася філасофскае аддзяленне, куды прымалі толькі абітурыентаў з працоўным стажам і пасля арміі. Тады я вырашыў пайсці працаваць і запісацца ў вячэрні ўніверсітэт марксізму-ленінізму. На ўсялякі выпадак здаў дакументы на іспыты, але мяне папярэдзілі, што ніякіх шанцаў на паступленне няма. Я не гараваў, бо мог паехаць у Ленінград, каб вучыцца ў Ваенна-палітычнай акадэміі, куды мяне накіроўвалі. Давялося адмовіцца, бо бацька быў катэгарычна супраць. Ён папярэдзіў, што з маімі каштоўнасцямі і памкненнямі няма чаго рабіць у Савецкай Арміі і калі я на гэта пайду, дык зламаю сабе жыццё. І я ўдзячны бацьку, што ён мяне выратаваў.

Усе іспыты я здаў на выдатна, і хаця конкурс быў шэсць чалавек на месца, мяне — адзінага выпускніка школы — усё ж такі залічылі на першы курс філасофскага аддзялення. Я палічыў, што пасля гэтага лёсавызначальнага цуду не маю права марнаваць час на нешта іншае, акрамя набыцця ведаў. І толькі праз год у мяне з'явіўся інтарэс да грамадскіх спраў, пасля таго як паехаў у студэнцкі будаўнічы атрад, а потым на цаліну ў Казахстан. Там пабачыў такое жыццё і такое перажыў, што на трэцім курсе стаў ужо зусім іншым чалавекам, хаця працягваў займацца філасофіяй. Я зразумеў, што сваю жыццёвую пляцоўку, дзе ты сам сябе сцвярджаеш, трэба бараніць да апошняга, нягледзячы ні на што.

*(Працяг будзе.)*



**З сям'ёй на вуліцы, 1988 год. Гэта — самы пачатак, перабудова ў разгары. Мы ўсе яшчэ разам. Дачка Марына заканчвае Мінскую СШ № 116, а 11-гадовы сын Максім зусім яшчэ хлопчык, вучыўся ў СШ №116, а потым перавёўся ў СШ № 24, удзельнічаў ва ўсіх маіх выбарчых кампаніях. І жонка Ірына — дацэнт Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук. Мы яшчэ ні ў Чарнобылі, мы яшчэ ні ў БНФ. Вось гэта сям'я, з якой усё пачалося. Яны былі паплечнікамі ва ўсіх маіх справах. Без Ірыны ніколі б не было дабрачынных праграм, а без дзяцей ніколі б не было падтрымкі. Зараз дзеці ў Нямеччыне. Марына — доктар навук, старшы навуковы супрацоўнік, займаецца праблемамі глабальнай эканомікі, а Максім — магістр, займаецца праблемамі сацыяльных камунікацый. У Максіма гадуецца дачка Сонечка.**

ШАШКІ

## Сітуацыі, поўныя цікавасці

Раней мы паведамілі аб выніках адборачнага першынства краіны да вышэйшай лігі 2014 года. У ім барацьба ішла на 100-клетачных дошках. Адбыліся спаборніцтвы і ў першай лізе па шашках-64. Тут мацнейшымі былі Аляксандр Барташ з Маладзечна (14 ачкоў з 18 магчымых), Дар'я Федаровіч з Мінска (13), Віталь Аніська з Мінска, Васіль Навумік з Ваўкавыска і мінчанін Уладзіслаў Валюк (па 12). У жаночым турніры пуцёўкі ў вышэйшую лігу атрымалі прадстаўніцы сталіцы Марыя Міронава (11 ачкоў), Аляксандра Спірына, Паліна Петрусёва (па 10) і Ганна Вузлік (8).

Разгледзьце сітуацыі, поўныя цікавасці, якія ўзніклі ў партыях удзельнікаў. Іх па электроннай пошце перадаў намеснік старшыні Беларускай федэрацыі шашак, майстар спорту Віталь Варушыла:

1.**Белыя** (Д.Яфімовіч): a1, c1, c3, d2, d4, e1, f2, g1, h2, h6 (10).

**Чорныя** (Я.Ханукаеў): a3, a7, b6, b8, d6, d8, e7, f6, f8, h8 (10).



Ход чорных і іх выйгрыш.

2.**Белыя** (С.Бурко): c3, d4, e3, f4 (4).

**Чорныя** (А.Чэпа): a3, a5, d6, f8 (4).

1. fg5 dc5 2. db6 ac7 3. gf6 cb6 4. ed4 ba5 5. dc5 ab4 6. ca5 ab2 7. fe7+.

3.**Белыя** (С.Місюта): b2, a3, c1, e3, f4, g1, g3, h4 (8).

**Чорныя** (А.Чэпа): a5, c5, c7, d6, d8, h2, h6, h8 (8).

Чорныя праводзяць камбінацыю: 1... de5 2. f:b8 h:d2 3. c:e3 dc7 4. b:b4 a:a1. Але яна перамажнай перавагі не дае, у чым карысна пераканацца самастойна.

## Міжнародны конкурс

Ён адбыўся пад назвай "Крыўя-2013" і стаў папулярным. Удзельнікі даслалі на разгляд суддзяў па дзве 64-клетачныя канструкцыі, усяго — 34. Пераможцамі сталі: у катэгорыі А (полiпраблемы) — мінчанін Мікалай Грушэўскі (1-е месца), Аляксандр Кагоцька з Бабруйска (2-е), Пётр Шклудаў з Наваполацка (3-е і 4-е) і Дзмітрый Камчыцкі з Магілёва (5-е), у катэгорыі В (задачныя праблемы) — П.Шклудаў (1-е і 2-е), А.Кагоцька (3-е), Анатоль Саўчанка з Украіны (4-е) і Віктар Шульга з Мінска (5-е). Усім прызёрам налічаны балы для прысваення міжнародных званняў.

Пазнаёмцеся з варыянтнай камбінацыяй М.Грушэўскага, якая па змесце прызнана выдатнай (80,33 ачка):

**Белыя**: c5, d4, e3, e7, f6, g5, h6 (7).

**Чорныя**: a3, b2, c3, d8, f4, h4 (6).

F8 (g7) cd6! (d2A) c7 (b6B) b4 (f6C) f8, a5x. C(c5) e3, a7x.

B(f6) b4 (c5VP1) e7x. VP1(b6) f8, a5x. A(f6) e7, de7, b4, c1x.

## Рашаем разам

**"Двойчы чэмпіён"** (П.Шклудаў): **№2** — hg3, b4, g3, d2, g7, f2, f2 (g5A) c7 (h4) b8 (hg3) h4 (e3) f4, f6+. A(e3) d4 (g5) c7 (f4) b8+.

**Мікалай ГЛАДКІ.**



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Максім МІРНЫ:*

# «Калі б я займаўся зімовымі відамі спорту, то стаў бы хакейным варатаром»

*Напярэдадні адкрыцця зімовай Алімпіяды вядомы беларускі тэнісіст Максім МІРНЫ прэзэнтаваў новую лінію мужчынскай касметыкі і распавёў "Народнай Волі", чаго чакае ад Гульняў.*



Днямі тэнісіст стаў тварам касметычнай лініі для мужчын "Беліта-Вітэкс" MAXsport.

— Я рэкламую тыя рэчы, што мне падабаюцца, — сказаў ён і дадаў, што ўдзельнічае шмат у якіх рэкламных кампаніях.

Але, як адзначыў бацька спартсмена **Мікалай Мірны**, яго сын ніколі не будзе рэкламаваць піва, хоць прапановы на гэты конт былі.

— А вось я змог бы, — з усмешкай заявіў Мікалай Мікалаевіч. — І келіх у руках не задрыжыць.

Не абмінулі ў гутарцы з Максімам і тэму Алімпійскіх гульняў у Сочы, якія адкрываюцца заўтра.

— Алімпіяда — гэта вялізная адказнасць для кожнага спартсмена, — сказаў алімпійскі чэмпіён. — Паверце, кожны вельмі зацікаўлены заваяваць медаль. Іншая справа, што Гульні заўсёды непрадказальныя. Усе ж хочуць выступіць найлепш, не толькі беларусы.

**— Самі вы зімовыя віды спорту любіце?**

— Безумоўна, бо большую частку дзяцінства на каньках правёў. Таму, калі б не тэніс, то, магчыма, стаў бы хакейным варатаром. Я каманднага складу ігрок.

**— За каго канкрэтна будзеце балець на Гульнях?**

— За ўсіх нашых. І чым бліжэй беларускія алімпійцы будуць да медалёў, тым больш будзе мяне трэсці.

**— Некалькі асабістых пытанняў. У цябе, Максім, трое дзяцей, і ты працягваеш займацца тэнісам... Наколькі церпіць сям'я з-за таго, што рэдка бачыць бацьку дома?**

— Я б не сказаў, што яна вельмі церпіць. У рэшце рэшт, менавіта сям'я зрабіла выбар на карысць працягу маёй спартыўнай кар'еры. Добра, безумоўна, было б валяцца з дзецьмі на канапе кожны вечар, але я пакуль у спорце. Ды і ёсць у мяне вольны час, які я якраз і прысвячаю сям'і.

**— Чым вас апошнім часам парадавалі дзеці?**

— Яны мяне пастаянна радуюць. Калі кажуць нейкае новае слова, асвойваюць новыя тэхналогіі... Вось дачка, напрыклад, зараз захапілася вырабам гумовых бранзалетаў. Зрабіла мне сваімі рукамі, падарыла... Гэта ж такая радасць!

**Алесь СІВЫ.**

КРЫЖАВАНКА

# «Я вас люблю»

***Прысвячаецца святу закаханых — Дню Святога Валянціна***

**Па гарызанталі:** 1."Разгарнуць твае чорныя ...,//Цалаваць а паўночнай цішы" — з верша К.Сваяка "Эрас і Псіхея". 7."Зубы тыя, што ...,//Выгнутыя броўкі" — з верша П.Броўкі "Клопаты". 8.Тады ... ажэніцца, як лысы вол ацеліцца (прык.). 9."Я ...,//Я ...,//Сваім сэрцам растаплю" — з песні "Ой, мяцеліца" (сл.А.Дзяружынскага, муз.М.Шуміліна). 10.Шостая нота музычнай гамы. 13.Тое, што і маці. 14."Каб ад сцюжы не сканаць,//Мусіць ... ноч скакаць" — з верша М.Танка "Заячы дом". 15.Прыхільнасць да любімай, любімага. 16.Вялікі гармонік. 17."Я вас люблю!//Які мой ... ні быў,//Як ні хістаўся човен майго лёсу" — з верша А.Грачанікава "Я вас люблю". 18.Чароўнасць, прывабнасць. 20."Помню толькі ... дзявочы,//Муражныя паплавы" — з верша П.Глебкі "Вее вецер". 21.Ласкавы зварот да каханага чалавека. 24.Лагчына, роў. 25.Назва падарункаў, якімі абменьваюцца закаханыя на свята закаханых — 14 лютага. 27.Хто ў прымах не бывае, той ... не знае (прык.). 28.Тое, што і князёўна. 29."Пакуль ... чыста стала,//Я з Раманам пастаяла" — з беларускай народнай песні "Ой, ляцелі гусі".

**Па вертыкалі:** 2.Усё, што адносіцца да палавога жыцця. 3.Тканіна. 4.Прыемны пах, духмянасць. 5.Імя прапаведніка, якога пакаралі смерцю 14 лютага 269 года за яго хрысціянскія перакананні. 6.Той, каго асабліва любяць. 11."Бывай, ..., каханая, бывай" — з верша Аркадзя Куляшова "Бывай...". 6 лютага — 100 год з дня нараджэння паэта. 12."З вясной прыходзіць ...,//І абуджэнне ада сну" — з верша А.Грушэцкага "Вясна". 17.Запрэжка ў шэсць коней. 19."Як каралеўна, ...,//Хоць ты малюй на абразы" — з верша Я.Мальца "Вясковае вяселле". 22.Прыйшоў Прохар ды Улас (29 лютага) — хутка ... ў нас (прык.). 23."А мы з табой, мой міленькі,\\Як у садзе ..." — з беларускай народнай песні "Вецер вее, сонца грэе". 26.Пералівы колераў, святла.



**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

**Адказы на крыжаванку**

**Па гарызанталі:** 1.Косы. 7.Часнок. 8.Юзік. 9.Сняжыначкі. 10.Ля. 13.Мама. 14.Заяц. 15.Цяга. 16.Баян. 17.Шлях. 18.Шарм. 20.Стан. 21.Анёл. 24.Яр. 25.Валянцінкі. 27.Гора. 28.Княжна. 29.Вада.

**Па вертыкалі:** 2.Секс. 3.Саржа. 4.Водар. 5.Валянцін. 6.Любімец. 11.Смуглява. 12.Закаханне. 17.Шасцярык. 19.Маладая. 22.Вясна. 23.Вішні. 26.Ігра.

ОЛИМПИЙСКАЯ МОЗАИКА

## Рекорд Бьорндалена...

*Норвежский биатлонист Уле Эйнар Бьорндален смог повторить рекорд по количеству олимпийских медалей на зимних Играх, выиграв спринт в Сочи.*

40-летний спортсмен выиграл такое же количество медалей, как и его соотечественник Бьорн Дэли, который также завоевал 12 олимпийских медалей за свою карьеру в соревнованиях по лыжным гонкам.

На финише Бьорндален обошел австрийца Доминика Ландертингера и чеха Ярослава Соукупа. Это стало седьмой победой Бьорндалена на Олимпийских играх, помимо этого у него есть еще четыре серебряные и одна бронзовая медали.

## ...И рекорд сочинцев

*В день открытия зимней Олимпиады в Сочи был установлен рекорд рождаемости.*

Как сообщает ТК "Россия 1", 7 февраля в городе родились 34 младенца — 10 девочек и 24 мальчика. Этот показатель стал самым высоким за последние 10 лет.

## Сколько стоят олимпийские медали?

*По подсчетам американских экспертов, победитель Олимпийских игр в Сочи становится обладателем награды стоимостью в 550 долларов США.*

По данным газеты Pittsburgh Post-Gazette, именно в такую сумму оценивается медаль, отлитая из драгоценного металла. Всего на изготовление медали высшей пробы затрачивается 525 граммов серебра и 6 граммов желтого металла для ее последующего золочения.

Серебряная награда стоит значительно меньше — 310 долларов.

Всего на изготовление медалей было потрачено 70 тонн бронзы, 2 тонны серебра и 6 кг золота.

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906, (029) 7753871**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647

9 772071 964000 14011

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 10.02.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27020 экз. Заказ №595.**